


АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА | РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ

# Голас Радзімы

7 чэрвеня 2000 года
Цана 80 рублёў

№ 23 (2685)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 6 красавіка 1955 года


АКТУАЛЬНА

## МІНСК ЗНОЎ АДЧУЎ СЯБЕ СТАЛІЦАЙ СНД...

● Юрась ЛЯШКЕВІЧ.

За апошнія пяць гадоў, напэўна, толькі ў маі гэтага года жыхары Мінска адчулі, што іх горад сапраўды з'яўляецца сталіцай Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Адразу два саміты структур, якія існуюць у межах СНД, *адбыліся ў беларускай* сталіцы. Для іх удзелу ў нашу краіну прыляцелі дэлегацыі на чале з прэзідэнтамі Арменіі, Казахстана, Кыргызстана, Расіі і Таджыкістана. Яны абмеркавалі пытанні супрацоўніцтва ў Мытным саюзе і ў межах Дагавора калектыўнай бяспекі (ДКБ). Напярэдадні памянёных самітаў у Мінск з афіцыйным візітам прыбыў прэзідэнт Казахстана Нурсултан Назарбаеў, а праз некалькі дзён пасля заканчэння сустрэч на вышэйшым узроўні — ужо Брэст сустракаў кіраўніка Украіны Леаніда Кучму. Такім чынам, на працягу некалькіх дзён Беларусь перажывала палітычную ліхаманку.

**БЕЛАРУСКА-КАЗАХСТАНСКАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА ЗАЛЕЖЫЦЬ... АД РАСІІ**

Нягледзячы на грунтоўную дакументальную базу, якая звязвае Беларусь і Казахстан, эканамічнае супрацоўніцтва паміж краінамі ніводзін бок не можа назваць здавальняючым. Летась аб'ём тавараабароту паміж Мінскам і Астаной склаў толькі 40,9 мільёна долараў ЗША, што ў два разы менш, чым у 1998 годзе. Пры гэтым Беларусь мела станоўчае сальда ў гандлі з Казахстанам у памеры 15,9 мільёна долараў. Праўда, нават такія паказчыкі дазволілі Казахстану выйсці на трэцяе месца ў спісе беларускіх гандлёвых партнёраў у межах СНД (пасля Расіі і Украіны). Тым не менш, бакі разумеюць, што падобны аб'ём застаецца далёкім ад рэальных магчымасцей і патрэб.

За два месяцы гэтага года памер тавараабароту вырас больш, чым у 3 разы ў параўнанні з аналагічным перыядам 1999-га і склаў ужо 20,7 мільёна долараў. Але сальда аказалася далёка не на карысць Беларусі: наша краіна купіла ў Казахстане на 16,7 мільёна долараў больш тавараў, чым прадала сваіх. Паводле інфармацыі казахстанскага МЗС, адначасова краіны цалкам спынілі пастаўкі асобных катэгорый тавараў. Напрыклад, Беларусь поўнасцю перастала экспартаваць сельскагаспадарчую тэхніку, тэлевізары і некаторую іншую прадукцыю.

Прычынамі такога незайздроснага становішча бакі называюць няўзгодненыя дзеянні па вылічэнню падаткаў пры правядзенні знешнегандлёвых аперацый, выпадкі двайнога падаткаабкладання, высокую аплату транзіту беларускіх і казахстанскіх тавараў праз тэрыторыю Расіі, а таксама несвоечасовыя плацяжы суб'ектаў гаспадарання.

Пасля перамоў у Мінску А. Лукашэнка і Н. Назарбаеў былі вымушаны прызнаць, што некаторыя праблемы эканамічнага супрацоўніцтва дзве краіны не ў стане вырашыць самастойна. Асабліва гэта датычыць праблемы транзіту грузаў праз расійскую тэрыторыю. Н. Назарбаеў увогуле лічыць гэтае пытанне самым вострым. "Плаціць па 40—50 долараў за транзіт адной тоны грузаў ні Беларусь, ні Казахстан не здольныя," — сказаў ён. Пры гэтым прэзідэнт Казахстана выказаў спадзяванне, што перагаворы з Расіяй ў сапраўднага саюзніка ёсць магчымасць у межах Мытнага саюза, старшынёй Міждзяржаўнага камітэта якога з'яўляецца Н. Назарбаеў.

Такім чынам, яшчэ падчас сустрэчы А. Лукашэнкі і Н. Назарбаева паступова пачалі абмяркоўвацца пытанні, якія былі вынесены ў парадак дня сустрэчы прэзідэнтаў краін — удзельніц Мытнага саюза: Беларусі, Казахстана, Кыргызстана, Расіі і Таджыкістана.

Заканчэнне на 2-й стар.

СПОРТ



● Сяргей ХАЛАДЗІЛІН.

Рагачоўская школа байдарачнікаў — адна з лепшых у Беларусі. Пачынаючы з 1972 года, яе выхаванцы прымалі ўдзел ва ўсіх Алімпійскіх спаборніцтвах. На гульні ў Сіднэі едуць трое беларускіх байдарачнікаў — адзін з іх выхаванец рагачоўскай школы.

Сёння ў Рагачоўскай спецыялізаванай дзіцяча-юнацкай школе алімпійскага рэзерву займаецца грэблям на байдарках і каноэ больш за 250 дзяцей. Многія з іх ужо паказваюць добрыя вынікі.

ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

### УКРАІНА

На Украіне моцная дыяспара беларусаў — нас каля 500 000 чалавек. Нядаўна Мінюст Украіны зарэгістраваў Усеўкраінскае аб'яднанне "Беларусь", куды ўваходзяць 22 з 27 рэгіёнаў Украіны. Перакананы, што ў хуткім часе дзейнасцю аб'яднання будуць ахоплены ўсе рэгіёны.

Сярод беларусаў Украіны вядомыя вучоныя, кіраўнікі прамысловых і сельскагаспадарчых прадпрыемстваў, банкіры і камерсанты, прадстаўнікі мастацтва і адукацыі, а таксама работнікі сілавых і праваахоўных ведамстваў.

У нашых праграме і статуце мы падкрэсліваем, што

Заканчэнне на 2-й стар.

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

## «ЕЎРОПА ТАМ, ДЗЕ МЫ...»

● Сяргей ПАНІЗЬНІК.

"Літаратура Еўропы запрашае" — пад такім дэвізам адбудуцца сустрэчы разнамоўных творцаў у 20 гарадах Еўропы, дзе гэтым летам спыніцца незвычайны "Літаратурны экспрэс". Ён адродзіць забыты маршрут экспрэса "Поўнач—Поўдзень", які злучаў увесь еўрапейскі кантынент. Ініцыятар і кіраўнік міжнароднага праекта "Літаратурны экспрэс "Еўропа-2000" — доктар філалогіі Т. Вольфарт з Берліна. Менеджэрамі выступілі яго калегі К. Ланге і Б. Гутберлет.

12 краін Еўропы падтрымалі ідэю, якая паспрыяе згодзе і ўзаемаразуменню, наладжванню кантактаў. Бо літаратура — чыннік духоўнасці, скарбніца нацыянальнай мовы. Высокае мастацтва не павінна занепасці, а надзяляць сваім гучаннем сусветную культуру.

І як тут не скарыстаць магчымасць: выслухаць еўрапейскае шматгалоссе і дадаць у яго суквецце не толькі водар купальскіх зёлак, але і прыгажосць Скарынавага слова, Купалавай мовы.

У леташнім распараджэнні прэм'ер-міністра Беларусі адзначалася: прыняць прапановы аб удзеле Рэспублікі Беларусь у гэтай акцыі. Арганізацыйны камітэт па падрыхтоўцы і правядзенні мерапрыемстваў узначаліў намеснік міністра культуры В. Гедройц. У складзе аргкамітэта — В. Іпатава, Ж. Дапкюнас (каардынатар праекта ад Беларусі) і іншыя.

5 чэрвеня 100 літаратараў з 43 краін Еўропы (у тым ліку В. Іпатава, Л. Дранько-

2 стар.

АМЕРЫКАНСКІЯ ЎРАЖАННІ



## МЕСЦА СПАТКАННЯ – ЦАРКВА

**Да гістарычнай падзеі далучыцца заўсёды прыемна. А адкрыццё новай беларускай царквы ў замежжы (ЗША, Агаё, Стронгевіл, Беларускі культурны цэнтр "Полацак") — падзея сапраўды заўважная і сур'ёзная на беларускім даляглядзе.**

Заканчэнне на 5-й стар.




НА БЕЛАРУСІ ПАДПІСАЦЦА МОЖА КОЖНЫ! Індэкс 63854, кошт на ІІ паўгоддзе — 2 184 рублі.

У МІНСКУ ЗАЎСЁДЫ МОЖНА НАБЫЦЬ У МАГАЗІНЕ № 2 «БЕЛСАЮЗДРУКУ» — праспект Ф. СКАРЫНЫ, 44.

УКЛЮЧАНЫ Ў ПАДПІСНЫЯ КАТАЛОГІ РАСІІ, УКРАІНЫ, ЛІТВЫ, КАЗАХСТАНА, КЫРГЫЗСТАНА.

## ЖЫЦЦЁ ПАСЛЯ ЧАРНОБЫЛЯ

Прынцыпова новую рэнтгенаўстаноўку стварылі ў мінскай фірме "АДАНІ", а далі жыццё на рагачоўскім заводзе "Дыяпраектар" Беларускага оптыка-механічнага аб'яднання. Пры абследаванні на данай рэнтгенаўстаноўцы пацыент атрымлівае дозу ўздзеяння радыёпрамянёў у пяць разоў менш, чым на ранейшых. На экране камп'ютэра высвечваецца поўная карціна стану здароўя пацыента.

Такіх апаратаў сабрана ўжо пяць. Працуюць яны ў Хойніках. І вось цяпер адзін з іх з'явіўся ў Брагіне.



НА ЗДЫМКАХ: новы "Пульмаэкспрэс" у Брагіне пачаў абследаванне пацыентаў; Марыя ГАЎРЫЛЕНКА — медсястра Брагінскага ТМА зараз з дапамогаю камп'ютэра, установленага на перасовачнай установцы "Пульмаэкспрэс", можа праз Інтэрнэт звязацца з любой клінікай Еўропы для атрымання медыцынскай кансультацыі.




БелТА.

## ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ: УКРАІНА

Пачатак на 1-й стар.

беларусы — не нацыянальна прыгнечаная меншасць, а беларуская дыяспара, якая пражывае на тэрыторыі Украіны, прызнае і паважае Канстытуцыю Украіны. Мы лічым: вырашэнне ўсіх сацыяльных, культурных, эканамічных праграм, а таксама стварэнне фондаў сацыяльнай абароны павінна адбывацца не за кошт дабрачыннай дапамогі, а ў выніку рэалізацыі комплекснай эканамічнай праграмы па ўзаемакарыснаму гандлю, прамысловай кааперацыі і сумеснай вытворчасці, **а таксама ўдзелу гаспадарчых структур Усеўкраінскага аб'яднання "Беларусь" у гандлёвым абароце паміж нашымі краінамі ў якасці гандлёвага прадстаўніка Рэспублікі Беларусь на Украіне.**

Беларусы — разумная, цярплівая і працавітая нацыя. З нашым удзелам закрыецца "шчыліна" для пасрэднікаў, прахадзімцаў, якія набіваюць "кішэні", выкарыстоўваючы часовыя эканамічныя цяжкасці.

З лютага 2000 года ў Жытомірскай вобласці дзейнічае чарнобыльская эканамічная свабодная льготная зона. 10 красавіка ў Жытоміры пабываў пасол Рэспублікі Беларусь В. Курашык. Сумесна з губернатарам В. Лушкіным абмеркавана магчымасць стварэння двух сумесных украінска-беларускіх прадпрыемстваў на базе Карасценьскага завода дарожных машын з удзелам беларускіх гігантаў — МТЗ і БелАЗ.

Даследаванні паказалі, што на глебе абласцей заходняга рэгіёна Украіны эканамічна мэтанакіравана выкарыстоўваць трактар МТЗ-80, МТЗ-82. У адказ на пастаўку шасі трактара губернатарамі Жытомірскай і Вінніцкай абласцей В. Лушкіным і Ю. Івановым дадзена гарантыя: "На суму, эквівалентную вартасці атрыманых шасі МТЗ, адправіць для Беларусі фуражнае збожжа і цукар з ураджаю гэтага года".

Стварэнне СП з удзелам БелАЗа мне асабіста давялося абмяркоўваць з Генеральным дырэктарам В. Гурыновічам. Мяркуецца, што гэта СП будзе займацца вытворчасцю спецыяльнай тэхнікі на базе шасі МАЗаў і ЗІЛаў.

На заводах камунальнага машынабудавання Жытомірскай ільготнай зоны ўстаноўлена спецыяльнае абсталяванне і выпускаюцца раскідальнікі пяску, палівазапраўшчыкі, смеццявозы, вышкі і гэтак далей, якія рэалізуюць на Украіне, у рэгіёнах Расіі. У льготнай чарнобыльскай зоне мяркуецца стварэнне эканамічных структур: філіяла гандлёвага дома "Беларусь", універсальнай таварна-сыравіннай біржы, фінансава-прамысловай біржы.

Некалькі слоў пра сябе. Нарадзіўся ў 1944 годзе ў вёсцы Грэск Слуцкага раёна. Маці і ўсе блізкія сваякі пражываюць зараз у Слуцку. Скончыў Харкаўскі авіяцыйны інстытут. Прайшоў шлях ад майстра авіязавода да камерцыйнага дырэктара НПА ХЭМЗ. У 1991 годзе актыўна ўдзельнічаў у стварэнні Украінскага саюза прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў і быў генеральным прадстаўніком саюза ў харкаўскім рэгіёне. У 1997 годзе ў Мінску быў заснаваны беларуска-расійска-ўкраінскі канцэрн — БелРасЭлетэкс, на якім я абраны прэзідэнтам электратэхнічнага канцэрна. Дзейнасць Усеўкраінскага аб'яднання "Беларусь" бачу ў цесным кантакце з УСПП БНПА і РСПП у рамках міжнароднага кангрэса прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў.

**Мікалай КУДЗЕЛКА,**
**старшыня Каардынацыйнага савета аб'яднання "Беларусь", член праўлення УСПП.**

Харкаў.

## ЗДАРЭННІ

Нядаўна недалёка ад Мінска выяўлены сапраўдны падпольны ліцейны цэх. Як паказала праверка, цэх належаў невялікай фірме, якая, дарэчы, не мела ліцэнзіі на збор каляровага і чорнага металу. На шматлікіх складах, раскіданых па навакольных вёсках, знаходзіліся сапраўдныя залежы меднага і алюмініевага лому, штабелі свінцовых балванак.

Мяркуецца, што загатоўка металу праходзіла па тэрыторыі ўсёй рэспублікі, і на пераплаў ішла не толькі сыравіна другога гатунку. На складах знойдзены фрагменты помнікаў партыйным лідэрам мінулай эпохі і, відаць, украдзеныя з заводаў фабрычныя адліўкі. Часцей за ўсё канчатковым пунктам транспарціроўкі такога тавару становяцца краіны Балтыі і Германія.

У агульным арышт накладзены на 80 тон каляровага і чорнага металу.

## АКТУАЛЬНА

# МІНСК ЗНОЎ АДЧУЎ СЯБЕ СТАЛІЦАЙ СНД...

Пачатак на 1-й стар.

А. Лукашэнка напярэдадні перамоў заявіў, што будучыня як мытнай "пяцёркі", так і Садружнасці залежыць ад таго, наколькі паспяхова ўдасца вырашыць пытанне адносна стварэння зоны свабоднага гандлю. На сённяшні дзень адзіным бар'ерам у гэтай галіне застаецца недвухсэнсоўная пазіцыя Расіі, якая ў адрозненне ад іншых дзяржаў не спяшаецца ратыфікаваць адпаведныя дакументы.

А. Лукашэнка ў сувязі з гэтым яшчэ на сустрэчы з Н. Назарбаевым заявіў: "Калі зона свабоднага гандлю не будзе створана, то мы апынёмся на мяжы развалу Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Калі мы ў палітыцы не можам нічога зрабіць, калі ў галіне абароны таксама ўсе адзінаццаць дзяржаў не могуць нічога зрабіць, а яшчэ калі мы і ў эканоміцы нічога не зробім, то паўстае пытанне: а што мы можам зрабіць? Таму, калі б мы здолелі вырашыць праблему тарыфаў у эканамічным ядры СНД — Мытным саюзе, то гэта быў бы значны крок. Я лічу, што гэта вельмі сур'ёзная эканамічная праблема, без вырашэння якой немагчыма існаванне ніякіх саюзаў у далейшым..."

### ЗМЕНА ШЫЛЬДЫ МЫТНАГА САЮЗА

Але, як паказалі вынікі сустрэчы прэзідэнтаў пяці дзяржаў у межах Мытнага саюза, Расія не мае намеру ісці на ўступкі іншым членам Мытнага саюза і СНД. Яе пазіцыя засталася нязменнай, таму перспектывы ў Мытнага саюза і СНД у сувязі з гэтым сапраўды аказваюцца цмянымі. Гэта азначае, што і праблемы двухбаковага супрацоўніцтва ў межах СНД застаюцца нявырашанымі.

Мяркуючы па вельмі стрыманых выказваннях прэзідэнтаў пяці краін Мытнага саюза, перамовы ў Мінску па сутнасці не вырашылі ніводнага вострага пытання. Прэзідэнты краін бліснулі на прэс-канферэнцыі па выніках сустрэч моўнай эквілібрыстыкай і не назвалі ніводнага канкрэтнага рашэння. Наконт зоны свабоднага гандлю было паведамлена, што для вырашэння гэтага пытання чарговы раз будзе створана новая рабочая група, якая павінна прадставіць свае прапановы да пачатку восені гэтага года. У рабочым парадку таксама разглядалася пытанне аб мерах па рэалізацыі прынцыпу "краіны прызначэння" пры вылічэнні ўскосных падаткаў.

Такім чынам, гэта азначае, што краіны — удзельніцы Мытнага саюза найперш кіруюцца сваімі асабістымі інтарэсамі, не жадаючы саступаць сваіх пазіцый партнёрам.

Дарэчы, адзіным важным дасягненнем перамоў у Мінску кіраўнікі дзяржаў назвалі дамоўленасць аб жаданні пераўтварыць Мытны саюз у Міждзяржаўнае аб'яднанне "Мытны саюз", надаць яму міжнародны статус і міжнародную правасуб'ектнасць. Але знешнія змяненні зусім не азначаюць змяненняў якасных унутры аб'яднання пяці дзяржаў. І змяненне шыльды аб'яднання яшчэ нічога не азначае. У сувязі з гэтым зусім лагічнай выглядае заява прэзідэнтаў, што Мытны саюз застаецца непрывабным і пакуль ніводная з іншых дзяржаў СНД не пажадала далучыцца да "пяцёркі".

### З МАРАЙ АБ АГУЛЬНАЙ СІСТЭМЕ БЯСПЕКІ ЕЎРОПЫ І АЗІІ

Не менш існуе праблем і ў аб'яднанні дзяржаў, якія ўваходзяць у Дагавор калектыўнай бяспекі. Разам з пяццю ўжо памянёнымі краінамі СНД туды яшчэ ўваходзіць і Арменія, прэзідэнт якой Роберт Качаран таксама браў удзел у перамовах. Але за час, які прайшоў пасля падпісання дагавора ў 1994 годзе, з яго ўжо выйшлі Грузія, Азербайджан і Туркменістан. Гэта азначае, што фактар непрывабнасці існуе і тут.

Але, у адрозненне ад перамоў у межах Мытнага саюза, на глебе ваенна-тэхнічнага супрацоўніцтва прэзідэнты папрацавалі больш вынікова. Толькі адзін пункт з дзесяці, якія значыліся ў парадку дня сустрэчы, быў адкладзены да наступнай сустрэчы — гэта праект Пагаднення аб асноўных прынцыпах ваенна-тэхнічнага супрацоўніцтва паміж дзяржавамі — удзельніцамі ДКБ. Савет калектыўнай бяспекі прызнаў яго недастаткова падрыхтаваным і даручыў рабочай групе прааналізаваць дакумент больш дасканала.

Такім чынам, Савет калектыўнай бяспекі адобрыў Мемарандум аб павышэнні эфектыўнасці ДКБ і адаптацыі яго да сучаснай геапалітычнай сітуацыі. Акрамя таго, у Мінску былі створаны новы кансультатыўны орган у межах Дагавора калектыўнай бяспекі — Камітэт сакратароў Саветаў бяспекі краін — удзельніц ДКБ. Прэзідэнты адобрылі Палажэнне аб Савеце міністраў абароны і Палажэнне аб парадку прыняцця і рэалізацыі калектыўных рашэнняў на прымяненне сіл і сродкаў калектыўнай бяспекі.

Праўда, на заключнай прэс-канферэнцыі прэзідэнты звярталі асаблівую ўвагу на заяву, якую яны падпісалі па выніках перамоў. Сутнасць гэтага дакумента ў тым, што кіраўнікі краін дамовіліся аб прыярытэтнасці ваенна-тэхнічнага супрацоўніцтва краін — удзельніц ДКБ у параўнанні з ваеннымі кантактамі і стасункамі з трэцімі дзяржавамі, якія не ўваходзяць у ДКБ.

Увогуле, разважаючы пра глабальны ўплыў дагавора, прэзідэнты Беларусі, Расіі і Казахстана падкрэслілі, што жадалі б бачыць у перспектыве аб'яднанне краін—удзельніц ДКБ элементам агульнай сістэмы бяспекі Еўропы і Азіі.

## ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# «ЕЎРОПА ТАМ, ДЗЕ МЫ...»

Пачатак на 1-й стар.

Майсюк, А. Федарэнка) на шэсць тыдняў адправіліся з Лісабона і наведаюць Іспанію, Францыю, Бельгію, Германію, Польшчу, Літву, Латвію, Эстонію, Санкт-Пецярбург і Маскву. 9 ліпеня літэкспрэсаўцы трапяць у Мінск. Па абедзе іх чакае Вязынка, дзе пройдзе тэатралізаванае свята "Беларусь праз межы і стагоддзі". У Заходняй Еўропе пра купальскую ноч памятаюць мо толькі паводле шэкспіраўскага твора. Таму "жывое" Купалле павінна зацікавіць нашых гасцей.

А з раніцы 10 ліпеня літаратары сустрэнуцца са сваімі беларускімі калегамі ў бібліятэках, музеях Мінска. Вечарам таго ж дня Дом літаратара пакажа ім выставу перакладзеных на беларускую мову навінак. Там жа разам з нашымі пісьменнікамі будуць гатовы да дыялога кнігавыдаўцы, людзі розных творчых прафесій. Галоўная тэма абмену думкамі — "Чарнобыль — боль Беларусі".

Брэст — апошні прыпынак "Літэкспрэса" на беларускай зямлі, перш чым праз Варшаву шаноўная грамада трапіць 17 ліпеня ў Берлін на ўрачысты фінал.

Пазней будуць выдадзены зборнікі, даведнікі; анталогію твораў мастакоў слова змесцяць у сетку Інтэрнэт. І беларусы павінны ўдумліва адказаць на галоўныя пытанні такой творчай лабараторыі, якой стане "Літэкспрэс": "Што мы будуем — агульны дом еўрапейскіх культур ці новую вавілонскую вежу?", "Ці прыйдзецца нам у XXI стагоддзі чытаць друкаваныя кнігі?", "Няўжо ў самай блізкай будучыні пісьменнік згубіць сваю кампетэнцыю асветніка?"...

А пакуль што над ажыццяўленнем згаданага праекта шчыруе Саюз беларускіх пісьменнікаў. Пад старшынствам І. Чароты прайшло пасяджэнне секцыі перакладу. Надзённыя праблемы правядзення "Літэкспрэса" абмеркаваны на сустрэчы сяброў Камісіі па сувязях з замежнымі літаратурамі, якую ўзначальвае В. Іпатава. Клопат на ўсіх адзін: "прарасці" ў еўрапейскі кантэкст найноўшымі здабыткамі прыгожага пісьменства, засведчыць тысячагадовы вопыт развіцця нашай літаратуры, выявіць досвед хрысціянскага абуджэння, праведзены нашымі геніяльнымі продкамі, узнадзеіць суседзяў па планеце Зямля, што і ў трэцім тысячагоддзі з нашага краю не прыпыніцца духоўнае донарства.

...Я ўжо адчуваю сябе ў Вязынцы, дзе купальскія вогнішчы аблашчаць аблічча сяброў. Нібыта ад іх імя і напісаны мною гэтыя, ужо непразаічныя радкі...

### КУПАЛЬСКІ МАТЫЎ «Літэкспрэса»

Збліжаем далягляды,
злучаем рытмы сэрцаў.
Мы вечаруем святы —
сустрэчы спадкаемцаў.

Еўропа там, дзе мы. І Беларусь —
Еўропа.
Купальскія дымы плывуць
ад расцяроба:
з чароўнае кармы
вітае нас Еўропа.

Праз межы і стагоддзі
жывое слова кліча, —
і свеціцца ў лагодзе
сяброўскае аблічча.

Экспрэсу не спыніцца.
Не будзе развітання.
Экспрэс для ўсіх — сталіца
натхнёнага кахання.

Еўропа там, дзе мы. І Беларусь —
Еўропа.
Купальскія дымы плывуць
ад расцяроба.
Ад полымнай гурмы
святлее ўся Еўропа!



## ЗАХАВАЙ ТРАДЫЦЫЮ



Ганна РЫМДЗЁНАК навучае ткацтву дзяўчат-падлеткаў у Германавіцкім доме рамёстваў, што ў Шаркоўшчынскім раёне. А палатно, вытканае ёю, пастаянна экспануецца на выставах, яна — лаўрэат міжнароднага фестывалю мастацтваў "Славянскі кірмаш".

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**

## ЗБІРАЕ "АПТЫМАЛІСТ»



У маляўнічым наваколлі Вязынкі адбыўся XI рэспубліканскі злёт прапагандыстаў здаровага ладу жыцця "Аптымаліст". Злёт быў прысвечаны Дню фізкультурніка і сабраў больш за 300 удзельнікаў з усіх абласцей Беларусі. Турысты спаборнічалі ў сямейнай эстафеце, перацягванні каната, пераадоленні водных і іншых перашкод, удзельнічалі ў конкурсах самадзейнасці, а вечарам каля вогнішча, канешне, спявалі турысцкія песні.




## КОРАТКА

У Мінску вядзецца актыўная пасадка кветак. У гэтым годзе іх будзе высаджана 1 мільён 340 тысяч штук. Акрамя сартоў, да якіх даўно прывыклі гараджане, з'явяцца на клумбах і зусім новыя. Яны такія ж прыгожыя і арыгінальныя, як і іх назвы — бальзамін, гадзецыя, вярбена, арктотыс, геліятроп.

Сёлета ў Мінску будзе пасаджана таксама 15,7 тысячы дрэў і кустоў.

# АСНОЎНАЯ ПРАЦА ПА СТАБІЛІЗАЦЫІ ЭКАНОМІКІ — НАПЕРАДЗЕ

**ТЭЗІСЫ ДАКЛАДА ПРЭМ'ЕР-МІНІСТРА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ УЛАДЗІМІРА ЯРМОШЫНА ПРЫ ПРАДСТАЎЛЕННІ ПАРЛАМЕНТУ — НАЦЫЯНАЛЬНАМУ СХОДУ ПРАГРАМЫ ДЗЕЙНАСЦІ ЎРАДА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**



У адпаведнасці з артыкулам 106 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь прадстаўляю парламенту Праграму дзейнасці ўрада. Яна ўлічвае тыя **доўгатэрміновыя прагнозныя дакументы**, якія ўжо прыняты. Гэта Нацыянальная стратэгія ўстойлівага развіцця Рэспублікі Беларусь, Канцэпцыя праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 2001—2005 гады, Асноўныя накірункі сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на перыяд да 2010 года, Канцэпцыя сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь да 2015 года.

Мы ўсведамляем, што працэсы, якія прайшлі ў краінах СНД і нашай эканоміцы, ставяць перад намі новыя патрабаванні пры фарміраванні нашай эканамічнай палітыкі.

Пэўных карэктываў у палітыцы нашай дзяржавы патрабуе выкананне маштабнай па сваіх мэтах і разнастайнасці задач Праграмы дзеянняў Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі па рэалізацыі палажэнняў Дагавора аб стварэнні Саюзнай дзяржавы.

Усё гэта мы не маглі не ўлічваць пры распрацоўцы Праграмы, якую прадстаўляем.

Сёння можна з упэўненасцю канстатаваць, што з другой паловы 1998 года завяршыўся этап эканамічнай палітыкі, калі рост эканомікі ў значнай ступені вызначаўся дазагрузкай вытворчых магутнасцей, якія маюцца, і стымуляваўся за кошт эмісійных крэдытаў. Гэтаму таксама садзейнічала спрыяльная знешнеэканамічная кан'юнктура.

У такіх умовах гаварыць аб пабудове канкурэнтаздольнай здаровай эканомікі і ўстойлівым эканамічным росце ў сярэдне- і доўгатэрміновым перыядзе пакуль яшчэ рана.

Аб гэтым я гаварыў і на выніковым пасяджэнні ўрада, і перад вамі пры ўступленні на пасаду прэм'ер-міністра.

Таму, зыходзячы з рэальнага становішча спраў у эканоміцы, урад будзе будаваць эканамічную палітыку ў 2000 годзе.

## ЗАДАЧЫ НА 2000 ГОД. АСНОЎНЫЯ ВЫНІКІ І КВАРТАЛА

На бягучы год эканамічная палітыка дзяржавы вызначана ў прагнозе сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 2000 год.

Галоўнай яе мэтай з'яўляецца **забеспячэнне на падставе назапашанага патэнцыялу ў эканоміцы станоўчых умоў устойлівага эканамічнага развіцця.** І перш за ўсё — паляпшэнне фінансавага становішча ў рэальным сектары эканомікі як галоўным фактары яе паспяховага развіцця.

За І квартал доля аплаты працы ў агульнай структуры грашовых даходаў склала 55 працэнтаў або засталася на ўзроўні такога ж перыяду мінулага года. У ВУП удзельная вага аплаты працы за студзень — сакавік павялічылася на 5,1 працэнтнага пункта і склала 39,2 працэнта.

З улікам павелічэння з 1 мая мінімальнай заработнай платы і тарыфнай стаўкі І разраду ў маі заработная плата работнікаў невытворчай сферы павялічыцца на 8 працэнтаў, па народнай гаспадарцы на 5,6 працэнта. Такім чынам, у маі мы папоўнім узровень даходаў насельніцтва.

Якаснай асаблівасцю І квартала стала правядзенне ўрадам і Нацыянальным банкам больш жорсткай **грашова-крэдытнай палітыкі.** Сярэднемесячны прырост рублёвай грашовай масы склаў 5,8 працэнта супраць прагнозных 4 працэнтаў.

Гэта стала адным з фактараў захавання інфляцыйных працэсаў. У той жа час удалося знізіць узровень інфляцыі з 14,1 працэнта ў студзені 2000 года да 5,1 працэнта ў красавіку.

Аднак фінансавая напружанасць у эканоміцы захоўваецца. Больш за трэць прадпрыемстваў і арганізацый **стратныя.** Растуць неплацяжы.

Застаецца складаным палажэнне на **валютным рынку.**

Узмацняецца напружанасць у **бюджэтнай** сістэме.

Кансалідаваны бюджэт за студзень — сакавік выкананы з дэфіцытам 2,7 працэнта да ВУП пры плане на год — 1,7 працэнта.

Прыпынена зніжэнне **ўзроўню жыцця** насельніцтва. Рэальныя даходы насельніцтва ў студзені — сакавіку 2000 года да такога ж перыяду мінулага года павялічыліся на 16 працэнтаў.

Такім чынам, трэба сказаць, што не па ўсіх накірунках нам удалося дасягнуць паслядоўнага эканамічнага росту.

## СТРАТЭГІЧНЫЯ МЭТЫ САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНАГА РАЗВІЦЦЯ. АСНОЎНЫЯ ПРЫЯРЫТЭТЫ

Стратэгічнай мэтай сацыяльна-эканамічнага далейшага развіцця краіны з'яўляецца павышэнне дабрабыту народа на падставе збалансаванага і ўстойлівага эканамічнага развіцця, забеспячэння рацыянальнай занятасці насельніцтва і павышэння ўзроўню яго сацыяльнай абароненасці, аздараўленне нацыі.

Зыходзячы з пераемнасці накірункаў эканамічнага развіцця і змены ролі асобных фактараў, на **бліжэйшую пяцігодку мяркуецца мэтазгодным вызначыць наступныя прыярытэты:**

нарошчванне экспарту тавараў і паслуг;

развіццё аграпрамысловага комплексу;

далейшае развіццё жыллёвага будаўніцтва;

актывізацыя інвестыцыйнай і інавацыйнай дзейнасці;

фарміраванне эфектыўнай сістэмы аховы здароўя.

За 2000—2005 гады **валавы ўнутраны прадукт** плануецца павялічыць у 1,24—1,33 раза, прадукцыю **прамысловасці** — у 1,24—1,28 раза, **сельскай гаспадаркі** — у 1,2 —1,3 раза.

**Вытворчасць працы і рэальная заработная плата** ўзрастуць у 1,3—1,4 раза.

Мерапрыемствы, механізмы і крыніцы эканамічнага росту, якія забяспечваюць рэалізацыю прыярытэтных накірункаў развіцця, будуць вызначаны ў Праграме сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 2001—2005 гады і прагнозе сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 2001 год, якія сёння знаходзяцца на стадыі распрацоўкі.

## ГРАШОВА-КРЭДЫТНАЯ І ВАЛЮТНАЯ ПАЛІТЫКА

Фактычная сітуацыя ў грашова-крэдытнай і валютнай сферы ў апошнія два гады вызначалася значнымі дэфармацыямі і негатыўнымі тэндэнцыямі. Гэта з'явілася прычынай захавання высокіх тэмпаў інфляцыі, множнасці курсаў і дэфіцыту валюты, значных аб'ёмаў абароту ценявога рынку валюты і ўдзельнай вагі бартэрных аперацый, а таксама высокага ўзроўню "даларызацыі" эканомікі.

Да канца 2000 года прадугледжваецца больш жорсткая ў параўнанні з мінулым годам **манетарная палітыка.**

Будзе прадоўжана работа па ўдасканаленню **цэнаўтварэння.** Для фарміравання эканамічна абгрунтаваных цэн урад мае намер удасканальваць прынцыпы і метады цэнаўтварэння, упарадкаваць нарміраванне элементаў цаны і аднясенне затрат на сабекошт прадукцыі.

Нас чакае вялікая работа па памяншэнню датацыйнасці і перакрыжаванага субсідзіравання ў сістэме цэнаўтварэння, паляпшэнню цэнаўтварэння ў сферы знешняга гандлю і вызначэнню мер ускоснага рэгулявання цэн.

Мы маем намер захаваць **дзяржаўнае цэнавае рэгуляванне** ў адносінах тавараў (работ, паслуг) прадпрыемстваў, якія займаюць дамінуючае палажэнне на таварных рынках рэспублікі, а таксама асобных сацыяльна значных тавараў і паслуг. Пры гэтым аб'ёмы рэгулявання цэн будуць пастаянна зніжацца.

Прыярытэтным накірункам дзяржаўнага рэгулявання будзе ўпарадкаванне цэн (тарыфаў) у асобных галінах эканомікі з мэтай ліквідацыі дыспрапорцый і перакосаў, а таксама абароны айчынных таваравытворцаў.

Мы абавязаны выканаць прагнозныя паказчыкі на бягучы год. У сувязі з гэтым урад будзе паступова ўводзіць бясстратнае функцыянаванне абслугоўваючых галін, такіх, як жыллёва-камунальная гаспадарка, транспарт, сувязь і іншыя.

Павышэнне цэн на жыллёва-камунальныя і іншыя паслугі, натуральна, будзе адбывацца адначасова з папераджальнымі мерамі па павышэнню **даходаў насельніцтва і адраснай падтрымкай** малазабяспечаных слаёў насельніцтва.

## ІНАВАЦЫЙНАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ

Маштабы інавацыйнай дзейнасці працягваюць заставацца недастатковымі. Гэта пагражае стратай канкурэнтаздольнасці прадукцыі, якая вырабляецца, і рынкаў збыту айчынных тавараў і паслуг.

На першае месца выходзіць задача забеспячэння ўкаранення **навуковых распрацовак** у вытворчасці і засваенне на іх падставе выпуску канкурэнтаздольнай прадукцыі.

Развіццё міжнароднага навукова-тэхнічнага супрацоўніцтва па-ранейшаму застаецца актуальнай задачай. Будзе працягнута рэалізацыя сумесных міждзяржаўных навукова-тэхнічных праграм і праектаў, перш за ўсё ў рамках Саюза Беларусі і Расіі.

## РЭАЛЬНЫ СЕКТАР ЭКАНОМІКІ. ПРАМЫСЛОВАСЦЬ

Як у кароткатэрміновай, так і ў доўгатэрміновай перспектыве ўрад бачыць адной з сваіх галоўных мэтаў стварэнне макраэканамічных умоў для **развіцця вытворчай сферы.**

Стабільнае развіццё эканомікі краіны забяспечваецца становішчам у ключавой галіне — **прамысловасці.**

Асноўная задача ўрада ў найбліжэйшай перспектыве — стварыць умовы для нарошчвання аб'ёмаў высакаякаснай прадукцыі і на гэтай падставе павысіць эфектыўнасць і экспартнага патэнцыялу прамысловага комплексу. Канкрэтныя накірункі і меры вызначаны ў Праграме развіцця прамысловага комплексу краіны на 1998—2015 гады.

Дзеянні ўрада будуць накіраваны на стымуляванне і падтрымку найбольш прагрэсіўных вытворчасцей, якія валодаюць вялікім навукова-тэхнічным патэнцыялам і здольныя ў кароткія тэрміны даць чакаемыя вынікі.

**Прыярытэтнымі** тут павінны стаць электронная прамысловасць, вылічальная і оптыка-валаконная тэхніка, інфармацыйныя, біялагічныя і тонкія хімічныя тэхналогіі, што дазволіць істотна пашырыць рынкі збыту за кошт прадукцыі гэтых галін.

**Дзяржаўнае інвесціраванне** будзе строга адрасным і здзяйсняцца на конкурснай падставе з абавязковым правядзеннем экспертызы праектаў. Прыярытэтнасць будуць мець праекты і праграмы экспартнага і імпартазамяшчальнага накірунку.

Рэсурсы прадугледжваецца накіроўваць на **мадэрнізацыю і тэхнічнае пераўзбраенне** прадпрыемстваў, засваенне новых энергазберагаючых тэхналогій. На гэтыя мэты павінны накіроўвацца і амартызацыйныя адлічэнні прадпрыемстваў.

**Заканчэнне будзе.**

ЖЫЦЦЁВЫЯ СЮЖЭТЫ

● **Таццяна ХРАПІНА.**



# КРЫЖЫКАМІ ВЫШЫТАЕ ЛЁСУ ПАЛАТНО

Дзевяць гадоў не бачыў Мікалай Качанкоў роднай вёскі. І няма ніякай магчымасці яе наведаць.

Лясная вёсачка Дзям'янкі, што ў Веткаўскім раёне Гомельскай вобласці, дзе ён бегаў хлапчуком басаною, цяпер за калючым дротам. Дамы і агароды стаяць пустыя, прыпарушаныя ядзерным попелам. Мікалаю Качанкову і яго маці, Вользе Савельеўне, далі кватэру ў Мінску. Толькі на Радаўніцу на пасту ля "калючкі" адкрываюць шлагбаум для ўсіх і не выпісваюць прапускоў. Але і на магілу бацькі Мікалай не можа з'ездзіць: пасля аварыі на ЧАЭС ён у трыццаць тры стаў інвалідам. "Прамянёўка" можа навваліцца ў любы дзень, у любую мінуту — уздымецца высокая тэмпература, пачнецца ліхаманка, як пры малярыі. З хваробай Мікалай звыкся, а характар мае такі, што ніводная мінута ў яго дарма не прападае.

Больш за ўсё былы настаўнік біялогіі любіць… вышываць. Крыжыкам на пяльцах. Малюнкі прыдумваць не трэба. Гэта ўсё родныя і незабытыя мясціны, жыццё лясной Дзям'янкі.



Веткаўскі раён — асаблівы. Тут некалі вышывалі бісерам іконы, была вядомая школа, слава пра якую ішла па ўсім свеце. Лепшыя з ікон і сёння захоўваюцца ў Веткаўскім краязнаўчым музеі, які знаходзіцца ў раённым цэнтры на вуліцы Чырвоная Плошча.

Маці Мікалая, Вольга Савельеўна, 26 гадоў працавала ў дзіцячым доме-інтэрнаце, сцены якога ўпрыгожаны яе "крыжыкам" і гладдзю. Мікалай сваімі вышыўкамі аздабляе цяпер мінскую кватэру. На яго палатно быццам завіталі з самых Дзям'янак высокі дуб, родная хата, каладзеж, закаханая парачка. Памяць і любоў да роднага краю твораць прыгожыя малюнкі. І хвароба адступае, і ўсё сумнае непрыкметна пакідае душу. Бо творчасць — вялікая сіла. Тонкая іголка, рознакаляровыя ніткі — вось і ўвесь інструмент. А хто ўбачыць вышыўкі, гаворыць: "Прыгажосць!"

**Фота Зінаіды МІШУРА.**

ТВОРЧЫЯ СУСТРЭЧЫ

## У МІНСКУ

Нядаўна ў бібліятэцы "Юнацтва" на сустрэчу з вядомымі беларускімі паэтамі Сяргеем Законнікавым і Алесем Пісьмянковым сабраліся юнакі і дзяўчаты — навучэнцы філалагічнага аддзялення Мінскага дзяржаўнага педкаледжа № 1, вучні і выкладчыкі школ Фрунзенскага раёна сталіцы, неабыякавыя да беларускай паэзіі.

Сяргей Законнікаў — галоўны рэдактар часопіса "Полымя". Ён вядомы чытачу па такіх зборніках, як "Рунь", "Бяседа", "Устань да сонца", "Сутнасць". За кнігу лірыкі "Пакуль жыве мая бяроза" паэт быў удастоены ў 1982 годзе звання лаўрэата Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова.

Алесь Пісьмянкоў — аўтар зборнікаў паэзіі "Белы камень", "Чытаю зоры", галоўны рэдактар штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва". У сваіх вершах ён услаўляе родны край, прыроду, разважае пра сучаснасць, мінуўшчыну.

Падчас сустрэчы С. Законнікаў расказаў пра часопіс, пра яго гісторыю і перспектывы развіцця:

— Мы павінны ганарыцца, што ў нас ёсць проза, паэзія, драматургія, не горшыя, чым у іншых народаў. Наадварот, проза сербаў, палякаў і беларусаў лічыцца самай лепшай, дасканалай, змястоўнай і цікавай. Узяць хоць бы любы нумар часопіса "Полымя". Што мы маем на яго старонках? Гэта Я. Брыль, Р. Барадулін, Л. Геніюш, А. Кудравец, В. Быкаў і іншыя выдатныя пісьменнікі. Хіба гэта не гонар ведаць, што беларуская літаратура не ўступае літаратуры іншых народаў?

На жаль, часопіс "Полымя" зараз знаходзіцца не ў самым лепшым матэрыяльным становішчы. Але калектыў рэдакцыі стараецца, каб часопіс выдаваўся і ў будучыні, каб не скараціўся яго аб'ём, каб ён працягваў радаваць сваіх чытачоў. Дапамагаюць яму ўсе, хто толькі можа: і некаторыя прадпрымальнікі, і пісьменнікі, і дзеячы культуры.

Алесь Пісьмянкоў перакананы, што наша краіна будзе мець шчаслівую будучыню, нашы мова, народ, літаратура будуць развівацца і квітнець, і нам, беларусам, будзе чым ганарыцца.

Паэты нагадалі пра незвычайныя выпадкі з свайго жыцця. А. Пісьмянкоў цікава расказаў пра свае рыбацкія прыгоды, С. Законнікаў — пра Данію, іншыя краіны, у якіх яму давялося пабываць.

Сустрэча прайшла вельмі цікава, таксама дзякуючы вядучым — загадчыцы бібліятэкі Валянціне Коршыкавай і бібліятэкару Наталлі Стрыгельскай.

**Вячаслаў МАЛЕЙКА.**

## У ЛАТГАЛІІ

Дырэктар Цэнтра беларускай культуры Аляксандр Рудзь, танцавальны ансамбль "Чараўніцы" і дуэт акардэаністаў ЦБК пабывалі ў Прэйлі ў Цэнтры славянскіх культур і прынялі ўдзел у канцэрце разам з ансамблем "Рябинушка" горада Прэйлі.

А старшыня беларускага таварыства "Уздым" Таццяна Бучэль і намеснік старшыні гэтага таварыства Станіслаў Валодзька разам са студэнтамі ДПУ, якія вывучаюць беларускую мову (як спецкурс), і дзецьмі беларускай нядзельнай школы ўдзельнічалі ў тыдні нацыянальных культур у Ніцгальскай вобласці. У Маладзёжным цэнтры ў Краўі латвійскія беларусы былі на адкрыцці выставы кніг і народных вырабаў, спявалі песні і чыталі вершы.

Цікавая сустрэча адбылася і ў беларускім таварыстве "Уздым". Тут гасцілі дзеці дзіцячага дома Краўя і Літоўскай нядзельнай школы. Выхаванцы Беларускай нядзельнай школы паказалі ім прадстаўленне.

**В. СТАНІСЛАВАЎ.**
Латвія, г. Даўгаўпілс.

АСПЕКТ ПРАБЛЕМЫ



# «У ЭНЦЫКЛАПЕДЫІ КОЖНАЕ СЛОВА ПАВІННА БЫЦЬ УЗВАЖАНЫМ»

*Заканчэнне гутаркі з галоўным рэдактарам выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя» Генадзем ПАШКОВЫМ*

У гэтым сэнсе робіцца вялікая справа, значэнне якой пакуль яшчэ поўнасцю грамадствам так і не ацэнена. Я ўдзельнічаў у міжнародным кніжным кірмашы ўвосень у Маскве і там бачыў: выпускаюць кнігі падобнага краязнаўчага характару і іх выкарыстоўваюць у школах. Так, напрыклад, вывучаюць "масквазнаўства". Мне здаецца, каб у кожным раёне нашай Беларусі ў якасці няхай пакуль і факультатыва вывучалі "Памяць" свайго раёна, то мы мелі б добрае пакаленне, якое ведала б уласныя карані і шанавала Беларусь.

Калі гаварыць пра іншыя накірункі нашай дзейнасці, то я хацеў бы звярнуць вашу ўвагу на тое, што робіцца дзеля прапаганды і развіцця беларускай мовы. Вось выйшла энцыклапедыя "Беларуская мова". У 1998 годзе яна атрымала Дзяржаўную прэмію. Ранейшае беларускамоўнае выданне — "Энцыклапедыя прыроды Беларусі". За гэты выпуск выдавецтва ўзнагароджана сярэбраным медалём ЮНЕСКА. Таксама выдаём багата слоўнікавай літаратуры: трохтомныя руска-беларускі і беларуска-рускі слоўнікі, англа-руска-беларускі, нямецка-руска-беларускі слоўнікі, шматтомны Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы, два гады запар выходзіў аднатомны Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы. А вось свежая кніжка: у канцы мінулага года пабачыў свет двухтомнік "Слоўнік іншамоўных слоў", аўтар Аляксандр Булыка. І нават такі слоўнік выходзіў у нас: "Руска-беларускі слоўнік для ваенных".

Бываючы на міжнародных кірмашах (а яны, акрамя Масквы, кожны год праходзяць у Варшаве, Франкфурце-на-Майне), пераконваешся: на ўсім рынку вельмі высокі попыт менавіта на даведачную літаратуру, літаратуру, якая мае практычны ўжытак. Адпаведная прадукцыя нашага выдавецтва — якасная і недарагая. У адрозненне ад той масы розных псеўдаэнцыклапедый і даведнікаў, што пасыпаліся на паліцы кнігарань апошнім часам.

На вялікі жаль, я, як пісьменнік, вымушаны адзначыць: цікавасць да мастацкай літаратуры за апошнія гады рэзка ўпала.

Хачу сказаць, што сапраўдная бяда сучаснага беларускага кнігавыдання — адсутнасць сваёй сыравіны: папера, паліграфічныя матэрыялы — усё прывазное. Ды і друкарскае абсталяванне пакідае жадаць лепшага.

**— Ці існуюць якія-небудзь спецыяльныя распрацоўкі наконт таго, колькі год павінна жыць энцыклапедыя, каб заставацца карыснай і актуальнай?**

— Не, падобных норм няма. Гэта ніхто не можа спрагназаваць: бачыце, толькі за дваццатае стагоддзе куды сягнула чалавецтва.

**— Калі завяршаецца выпуск універсальнай энцыклапедыі?**

— У 2004 годзе. Таксама хутка завяршаецца і гістарычная энцыклапедыя. Мы хацелі б пасля гэтых шасці тамоў выдаць грунтоўны аднатомнік, а лепш за ўсё два тамы з той жа, але вельмі сціслай інфармацыяй.

**— Ці бывае так, што ад энцыклапедыі адыходзяць аўтары, якія працавалі доўгія гады, але зараз не згодныя з нейкімі пазіцыямі кіраўніцтва выдавецтва?**

— У нас здараліся выпадкі, калі аўтар не пагаджаўся з рашэннем рэдкалегіі… Але заўсёды мы ўсё-такі знаходзілі ўзаемапаразуменне. Сёння атмасфера абсалютна творчая. Хаця ёсць спрэчкі. У нас жа картатэка на 6 тысяч аўтараў.

**— Вялікая…**

— Так, прычым аўтары не толькі ў Беларусі, але і ў Расіі, Прыбалтыцы, Польшчы, Украіне…

Дык калі ўзнікаюць спрэчкі… Я сам не ў праве быць у ролі нейкага трацейскага суддзі. Усё павінна вырашацца ў дыскусіях. Па крайняй меры, апошнія два гады не было, каб нехта сказаў: я здымаю свой артыкул.

**— Магчыма, вы проста не звяртаецеся да тых, хто можа быць нязгодным?**

— Не. Я так не сказаў бы. Кола тых, з кім мы супрацоўнічаем, цвёрдае. Нам дапамагае і акадэмічны Інстытут гісторыі, і гісторыкі, якія працуюць у вышэйшых навучальных установах, у першую чаргу, у Белдзяржуніверсітэце, і тыя, хто жыве ў правінцыі.

**— Дарэчы, мяркуючы нават па аўтарах нашай газеты, у правінцыі шмат даследчыкаў, якія скрупулёзна і плённа вывучаюць сваю мясцовасць…**

— Так, ёсць у правінцыі такія спецыялісты-падзвіжнікі. Яны проста закідваюць нас пісьмамі, прапановамі. Далёка не ўсё выкарыстоўваецца, але ўжо тое, што гэтыя людзі неабыякавыя да жыцця, да таго, што ствараецца нацыянальная энцыклапедыя, прыемна і абнадзейвае. А колькі краязнаўцы дапамагаюць нам ствараць "Памяць"! Аснова гэтай хронікі робіцца непасрэдна ў раёнах. А кнігі, зробленыя з любоўю, і чытаюцца лепш.

**— Грошай вам хапае?**

— Каму сёння грошай хапае? Нікому. Адносна універсальнай энцыклапедыі: яна ідзе па асобнай дзяржаўнай праграме, і тут можна толькі падзякаваць нашай дзяржаве.

Што тычыцца ўсяго астатняга, асабліва аплаты працы супрацоўнікаў, тут я пахваліцца не магу. Нашы зарплаты найперш залежаць ад нашага прыбытку. Дык вось, робячы энцыклапедыю, прыбытку вялікага не набудзеш, таму што гэта вельмі цяжкая, вельмі скрупулёзная і малаэфектыўная ў чыста вытворчым плане праца.

У некаторых дзяржаўных выдавецтвах дзеля эканоміі сродкаў скарачаюць штаты: больш кніг, менш людзей. Мы штаты свае не можам скараціць. Бо філолаг не будзе матэматыкам і наадварот. У нас на кожным участку павінен працаваць спецыяліст. І я з вялікай прыемнасцю магу сказаць: у "Беларускай Энцыклапедыі" працуюць сапраўдныя энтузіясты, людзі, улюбёныя ў сваю справу.

Перад Новым годам мы адзначалі 30 год з дня выпуску першага тома першай энцыклапедыі. Ушаноўвалі ветэранаў — тых, хто тады распачынаў справу. У нас іх ведаеце, колькі? 30 чалавек! Гэта ўжо сталыя людзі. Але яны нібыта прыраслі да выдавецтва. І на іх — уся надзея, каб выцягнуць і новую энцыклапедыю. Канешне, мы абнаўляем штат. Ёсць у нас добрая моладзь — таксама вельмі самаахвярныя людзі. У сённяшнім свеце знайсці такіх, згадзіцеся, цяжка. Аднойчы я пачуў нават такое параўнанне: у вас жа тут манахі працуюць, якія за нішчымную поліўку ў сваіх келлях пішуць гэтую гісторыю, і пішуць, і пішуць…

**— А як могуць набыць вашы кнігі нашы землякі?**

— Толькі праз дзяржаўнае прадпрыемства "Беларуская кніга". Я бачыў нямала нашых кніг за мяжой. Але пакуль усе яны трапляюць туды, як кажуць, з аказіяй. Крыху прасцей у Расіі. Аднак туды разнастайныя кнігагандлюючыя фірмы бяруць звычайна рускамоўную літаратуру. Таму Дзяржкамітэтам па друку пытанне пастаўлена наступным чынам: адкрыць у Маскве Дом беларускай кнігі. Ведаю, у Варшаве ёсць магазін, дзе прадаюць беларускія кнігі. Ёсць Дом славянскай кнігі і ў Германіі, у Франкфурце.

**— І апошняе. Вы — пісьменнік. Ці застаецца час і сілы для ўласнай літаратурнай творчасці?**

— Апошнім часам у мяне выйшлі дзве кніжкі. Адна паэзіі — "Журавінавы востраў", а другая — "Палескія вандроўнікі".

Узнікла такая ідэя — прайсці апошняй дарогай Караткевіча, прадоўжыць яе. Калі памятаеце, наш пісьменнік падарожнічаў па Прыпяці, яму зрабілася кепска, са шпіталя ён ужо не вярнуўся. Вось з таго месца, адкуль забралі Караткевіча — у Лунінецкім раёне, мы і пайшлі ў падарожжа. Я ўзяў з сабою магнітафон, каб запісваць галасы ўсіх, каго сустрэнем. Падарожжа доўжылася тры месяцы ў тры розныя гады. У першы год стаяла страшэнная засуха, у другі на нас абрынуўся лівень. Карацей, прайшлі ад граніцы Украіны па Гарыні і да Калінкавічаў. Пасля я зрабіў такую лірычную дакументальную радыёапавесць. І вось на аснове гэтага з'явілася кніжка "Палескія вандроўнікі".

Ну і для дзяцей у мінулым годзе выйшла кніжка "Зорнае поле".

**— Генадзь Пятровіч, дзякуем вам за сустрэчу. Плёну "Беларускай Энцыклапедыі" і вам асабіста.**

**Гутарку вяла Галіна УЛІЦЁНАК.**

Заканчэнне.
Пачатак у №№21-22.



ХРЫСЦІЯНСКАЯ СТАРОНКА «ЖЫЦЦЁ І ВЕРА»

# З ГІСТОРЫІ СУПРАСЛЬСКАЙ ЛАЎРЫ

## АСВЕТНІКІ ЗЯМЛІ БЕЛАРУСКАЙ І ІХ СВЯТЫНІ



● Алена ЯСКЕВІЧ, *кандыдат філалагічных навук.*

У 1998 годзе рэлігійна-культурная грамадскасць Беларусі, Украіны, Польшчы адзначыла 500-годдзе заснавання знакамітага Супрасльскага манастыра. У 1498-м намаганнямі вялікай княгіні і каралевы Польшчы (з 1505-га) Алены Іванаўны, наваградскага ваяводы і маршалка Вялікага княства Літоўскага гетмана Аляксандра Хадкевіча і смаленскага архіепіскапа, пазней кіеўскага мітрапаліта Іосіфа II Солтана па верхнім цячэнні ракі Супраслі ля селішча Грудзек, побач з сядзібай Хадкевічаў, засноўваецца манастыр. Але Госпадам было адкрыта манахам іншае месца жыхарства — ва ўрочышчы Сухі Грод на левабярэжжы Супраслі паблізу Беластока. Сярод насельнікаў манастыра-лаўры былі інакі з Афона, Сербіі, суседніх Кіева-Пячэрскага і Жыровіцкага манастыроў-лаўраў.

Творы супрасльскіх манахаў фактычна паклалі пачатак палемічнай лініі айчыннага пісьменства. Імі было напісана "Пасланне да латын з іх жа кніг" (не пазней 1582 года, на думку А. Коршунава, як адказ на кнігу П. Скаргі "Аб еднасці касцёла Божага" (1577).

Згаданы памфлет напісаны ў форме трактата, узбагачанага вытрымкамі з каталіцкіх хронік, твораў рымскіх гісторыкаў, лацінскіх тэолагаў Грацыяна, Плаціны і іншых. Аўтары твора абвяргаюць тэзіс П. Скаргі пра пап як "намеснікаў Бога на зямлі", паказваючы ў асобных прадстаўнікоў кліра тых часоў выпадкі хцівасці, авантурызму.

Мова твора кандовая старабеларуская, багатая на вобразныя выслоўі, параўнанні. На думку А. Коршунава, пазней ідэі, матывы, мастацка-стылявыя сродкі "Пасланння" выкарыстоўваліся, знайшлі працяг у творчасці Г. Сматрыцкага, С. Зізанія, В. Суражскага, І. Вішанскага і іншых пісьменнікаў-палемістаў.

Але на другую палову 60-х гадоў XVI стагоддзя прыпадае апрычніна. На пачатку 1566 года апякун друкароў мітрапаліт Афанасій цяжка захварэў, і, адчуваючы неспрыяльную палітычную сітуацыю, Іван Фёдараў і Пётр Мсціславец вырашаюць ад'ехаць з Масквы на беларускія землі Вялікага княства Літоўскага.

На заходняй мяжы беларускіх зямель ВКЛ у Супраслі ўтварыўся адзін з буйнейшых цэнтраў кніжнасці Slavia Orthodoxia.

Сусветна вядомая знакамітая Супрасльская Лаўра, каштоўная для славістычнай навукі і тым, што ў яе сценах быў складзены Супрасльскі зборнік 1519 года, які змяшчае самы поўны спіс беларуска-літоўскага летапісу 1446 года. Супрасльскі рукапіс (ці, як называюць яго ў замежнай навуцы, Супрасльскі кодэкс) з'яўляецца адным з самых старажытных помнікаў усходнеславянскага пісьменства, мае ў сваім складзе словы-павучэнні Іаана Златавуста і Тураўскае Евангелле.

У Супрасльскім манастыры знаходзілася (дарэчы, і зараз знаходзіцца) цудадзейная ікона Багародзіцы Супрасльскай. Існуе паданне, што разам з зямельнымі надзеламі, царкоўным абсталяваннем, прыналежнасцямі і кнігамі смаленскі Уладыка ўнёс у 1503 годзе ў Супрасль дакладную копію цудадзейнай Смаленскай іконы Божай Маці, якая карыстаецца асаблівай пашанай ва ўсіх славян.

Мяркуецца, што Супрасльская ікона Божай Маці вядзе свой радавод ад Улахернскай Адзігітрыі, напісанай, паводле царкоўнага падання, у ліку 70 евангелістам Лукою непасрэдна з Багародзіцы. Гэтая ікона Божай Маці знаходзілася спачатку ў Антыяхіі, потым у Іерусаліме. Жонка грэчаскага імператара Феадосія II (408—450) Еўдакія ў час падарожжа ў Іерусалім набыла гэтую ікону і адаслала яе ў Канстанцінопаль у дар святой (як стала вядома пазней) Пульхерыі, сястры імператара. Ікона была пастаўлена Пульхерыяй ва Улахернскім храме, таму і атрымала такую назву. У яе гонар быў заснаваны манастыр. Знаходжанне Улахернскай Адзігітрыі ў Царградзе суправаджалася цудамі. Захавалася паданне, што Божая Маці з'явілася аднойчы двум сляпым, падвяла іх да сваёй іконы ў храме і даравала вылячэнне. Адтуль і пайшла другая назва Улахернскай іконы "Адзігітрыя", што значыць "Пуцевадзіцельніца". Многія сляпыя, амываючы свае вочы вадою з храмавай крыніцы, таксама атрымлівалі вылячэнне. Грэчаскія імператары асабліва шанавалі гэтую ікону, увялі нават звычай браць яе з сабою ў паходы, каб Божая Маці сваім амафорам ахоўвала іх ад ворагаў, небяспекі. З 626 года ўсталяваўся пабожны звычай кожны год у Вялікі Пост пераносіць гэтую ікону з Улахернскага манастыра ў імператарскі палац, дзе яна і заставалася да панядзелка Светлай Сядміцы.

Царкоўнае паданне сведчыць таксама, што грэчаскі імператар Канстанцін Парфінародны благаславіў Улахернскай іконай Багародзіцы сваю дачку, царэўну Ганну, выдаючы яе ў 1046 годзе за чарнігаўскага князя Усевалада Яраславіча. Ікона суправаджала царэўну Ганну ў яе падарожжы з Царграда ў Чарнігаўскае княства, чым і пацвердзіла сваю назву Адзігітрыі ("Пуцевадзіцельніцы"). Пасля смерці чарнігаўскага князя Усевалада Яраславіча ікона Адзігітрыі дасталася ў спадчыну яго сыну Уладзіміру Манамаху, народжанаму ад грэчаскай царэўны Ганны. Уладзімір Манамах перанёс ікону ў Смаленск і паставіў яе ў саборным храме Успення Багародзіцы.

З таго часу ікона Адзігітрыі пачала называцца Смаленскаю. Захавалася паданне, якое тлумачыць прысутнасць побач з выявай Божай Маці і Дзіцяці Хрыста шанаваных беларускіх святых Аўраамія Смаленскага і Меркурыя-воя. Святы вой па загаду Царыцы Нябеснай ноччу 24 лістапада 1239 года ў час асады Смаленска татарамі нябачна і нечакана з'явіўся ў варожым войску і забіў татарскага асілка, на якога яны спадзяваліся больш, чым на ўсіх астатніх вояў. Святы Мяркурый пад аховай Божай Маці і Нябеснага Воінства мужна адбіваўся ад ворагаў, шмат іх знішчыўшы. Мяркурый атрымаў пакутніцкі вянец і быў усечаны мячом. Цудадзейным чынам яго святое цела было перанесена ў сабор. Выратаванне Багародзіцай Смаленска кожны год памінаецца яго жыхарамі 24 лістапада ўсяночным няспаннем і малебнам перад цудадзейнай іконай.

Спачатку Супрасльская ікона (існуюць паданні, што яна была напісана манахам з Афона, іншая версія сведчыць, што святыня была яўлена на водах ракі Супраслі двум манахам) змяшчалася ў іканастасе як мясцовашанаваная.

Звычайна днём ушанавання цудадзейнай Супрасльскай іконы лічылася 25 сакавіка (7 красавіка), а ў апошні час 28 ліпеня (10 жніўня) — дзень усеагульнага святкавання Смаленскай іконы Адзігітрыі. Цудадзейная ікона знаходзілася ў Супраслі да 1915 года, потым з-за наступлення нямецкіх войскаў, у час бежанства, была перанесена ў Слуцк. У Супрасль яна больш не вярнулася. Захаваліся толькі дзве копіі. Адна з іх знаходзіцца ў царкве Іаана Багаслова ў Супрасльскім манастыры. У маі — чэрвені і ў ліпені — жніўні ладзяцца міжнародныя навуковыя канферэнцыі-семінары, ідуць паломніцтвы.

ПАМЯЦЬ: ГАДАВІНА ТРАГЕДЫІ НА «НЯМІЗЕ»



**У касцёле святых Сымона і Алены ў Мінску напярэдадні сумнай даты — гадавіны падзей на "Нямізе" 30 мая 1999 года — адбылося выкананне "Рэквіема" В. Моцарта сімфанічным аркестрам нацыянальнай тэлерадыёкампаніі і нацыянальнай харавой капэлай імя Р. Шырмы.**

**НА ЗДЫМКАХ: у Чырвоным касцёле ў час выканання "Рэквіема" В. Моцарта.**

**Фота Аляксея КАМУШЭНКІ, БелТА.**





АМЕРЫКАНСКІЯ ЎРАЖАННІ

# МЕСЦА СПАТКАННЯ — ЦАРКВА

Пачатак на 1-й стар.

Велічны і строгі праваслаўны храм, што паўстаў напрыканцы XX стагоддзя на амерыканскай зямлі, — яскравае сведчанне беларускай прысутнасці, беларускай духоўнасці. Нібы жывая істота, ён размаўляе з вечнасцю і прасторай галасамі сыноў і дачок Беларусі, што сілай абставін, воляй лёсу трапілі ў гэты край.

— Мы тут ёсць, — нясуцца ў Космас іх галасы. — А там, дзе мы, — там наша воля, наша слова і наша малітва за ўвесь беларускі народ.

У наступным годзе парафія Жыровіцкай Божай маці (другая пасля Нью-Йорка парафія беларускай аўтакефальнай царквы ў ЗША) адзначыць свой 50-гадовы юбілей. А юбілей — гэта заўсёды падстава для роздуму, для асэнсавання пройдзенага шляху. Вядома, ён быў няпросты ў тых, хто ў пасляваенны час (другая сусветная вайна) трапіў у гэтыя мясціны. Толькі што пераехаўшы з нямецкіх лагераў у Амерыку, беларусы адразу пачалі думаць пра будаўніцтва сваёй царквы. Агульным сходам было вырашана сабраць трохі грошай, узяць пазыку ў банку і талакою, як некалі ў сваёй вёсцы, узяцца за справу.

Аляксандр Лук'янчык (бацька цяперашняга кіраўніка камітэта грамадска-культурнага цэнтра "Полацак", вядомага амерыканскага прадпрымальніка Анатоля Лук'янчыка) прывёз дошкі і іншы будаўнічы матэрыял. Са сваімі сякерамі, піламі, малаткамі прыйшлі А. Кананчук, М. Страпко, А. Чэрнік... Жанчыны папрыносілі свае абразы, ручнікі, кветкі. Пачаліся рэгулярныя богаслужэнні, стала наладжвацца шматбаковае царкоўна-грамадскае жыццё.

У 1953 годзе рэгентам царкоўнага хору стаў кампазітар Мікола Куліковіч, які паставіў яго на высокі прафесійны ўзровень. Пры парафіі дзейнічалі рэгенцкія курсы, існавала выдавецкая дзейнасць, працавалі суботняя школка і пры ёй розныя дзіцячыя гурткі.

У 1957-м беларусы набылі новы дом для царквы, якая сталася на дзесяцігоддзі найважнейшым рэлігійным і нацыянальна-грамадскім асяродкам гуртавання беларусаў у Кліўлендзе.

Царкву, што паўстала каля "Полацака" і адчыніла свае дзверы для парафіян у пачатку 2000 года, ужо не ўзводзілі талакою. Яе будавалі прафесіяналы, якім за гэта беларусы заплацілі немалыя грошы. Пазыку, дарэчы, у банку не бралі, бо мелі ўжо свае грошы, навучыліся іх зарабляць.

Нябожчык Сяргей Карніловіч, які некалі набыў зямлю для "Полацака", параіў парафіянам набыць яшчэ і бінга. Яны гэта зрабілі. Што такое бінга? Гэта такі ігральны дом, дзе збіраюцца сотні азартных людзей. А для парафіян праца ў бінга — грамадскі абавязак. Нягледзячы на ўзрост, старэйшыя беларускія мужчыны і жанчыны яшчэ трымаюць на сваіх плячах бінга.

Вядомы беларускі літаратар замежжа А. Кахаоўскі свой артыкул, прысвечаны 25-годдзю парафіі Жыровіцкай Божай Маці ў Кліўлендзе, надрукаваны ў часопісе "Голас царквы" за 1976 год, заканчвае словамі: "Што чакае парафію заўтра?" Пытанне гэта зусім не рытарычна гучыць і сёння. Тым больш, што ў ваколіцы Кліўленда ў апошнія дзесяць гадоў прыехала нямала новых эмігрантаў з Беларусі. Нават тыя з іх, хто заўсёды лічыў сябе бязбожнікам, усё ж ідуць у нядзелю да царквы, каб пабачыць сваіх людзей, пачуць родную гаворку. Па-ранейшаму месца сустрэчы беларусаў у Амерыцы змяніць нельга — гэта царква. Але настаў ужо час падумаць, як лічаць многія новыя іміграны, якім шляхам павінна развівацца і жыць беларуская парафія Жыровіцкай Божай Маці ў новым стагоддзі. Няма змены выдатнаму царкоўнаму хору. З прычыны таго, што народжанае ў Амерыцы маладое пакаленне генетычных беларусаў практычна ўжо не ведае беларускую мову, царкоўныя службы даводзіцца праводзіць на дзвюх мовах — беларускай і англійскай. Але тэндэнцыя выразная: англійская выцясняе беларускую.

На думку адных, варта нарэшце стварыць беларускую бібліятэку з чытальнай залай, слоўнікамі і даведнікамі, выпісаць газеты і іншую перыёдыку з Беларусі, каб заўсёды быць у курсе, што адбываецца на Бацькаўшчыне. Людзі старэйшага веку былі б не супраць, каб аддаць у грамадскае карыстанне асабістыя кнігі, якіх у кожнай сям'і сабралася нямала. Справай гонару парафіі, яе наступным крокам па ўмацаванню беларускай прысутнасці магло б стаць стварэнне ў "Полацаку" беларускага музея. Ёсць мноства архіўных матэрыялаў, твораў выяўленчага мастацтва, прадметаў старадаўняга беларускага побыту, абразоў і іншых унікальных рэчаў. І калі "Полацак" сапраўды ператворыцца ў жывы грамадска-культурны комплекс, куды пацягнуцца і старыя, і малыя, і нават проста цікаўныя амерыканцы, новая царква напоўніцца тым зместам, якога патрабуе ад яе час.

**Таццяна АНТОНАВА-МЕЛЬЯНОВІЧ.**

## ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

### УКРАІНА

Я падтрымліваю намер разварушыць працу ў "Бацькаўшчыне" ў скрутны для яе час, шчыра ўдзячны В. Герасімаву, які адважыўся ўзваліць на свае плечы гэткі цяжар.

Адносна анкеты: мяркую, яе трэба было б раздзяліць на два этапы.

Я быў удзельнікам і Першага, і Другога з'ездаў беларусаў свету, параўноўваць іх, дык толькі для кантрасту. Калі на Першы зляцеліся, як птушкі з выраю, сапраўдныя сыны Айчыны і запанавала свята беларускай душы, то Другі праходзіў у тэатры аперэты, і гэтым усё сказана.

Перспектыву "Бацькаўшчыны" бачу добрай, бо па ўсіх законах людскога жыцця дабро заўсёды перамагае зло, але калі?

Дадаткова інфармую В. Герасімава, што НКТ "Белая Русь" у Львове дэ-факта прыпыніла сваё існаванне, замест яго зарэгістравана беларускае зямляцтва, якое не ўваходзіць у "Бацькаўшчыну". Таму, з'яўляючыся сябрам Вялікай рады "ЗБС "Бацькаўшчына", я павінен і буду браць удзел ва ўсіх яе мерапрыемствах.

Што тычыцца канферэнцыі, прапаную рэферат на тэму: "Некаторыя асаблівасці нацыянальнага менталітэту і культура беларусаў на Галічыне". У далейшым тэму можна ўдакладніць.

**Барыс ЦІМАШЭНКА.**

Львоў.

### БІБЛІЯТЭЧКА ДЛЯ ІРКУЦКА

Мабыць не знайсці на прасторах былога Савецкага Саюза куточка, дзе б не пражывалі нашы суродзічы. Апошняе дзесяцігоддзе адзначана абуджэннем нацыянальнай свядомасці, імкненнем стварыць беларускія арганізацыі. Не забываюць пра сваё паходжанне беларусы буйнога сібірскага горада Іркуцка, імкнуцца захаваць сваю спадчыну. Пачыналі яны нацыянальную дзейнасць у 1996 годзе, калі на I з'ездзе беларусаў Іркуцкай вобласці было заснавана Іркуцкае таварыства беларускай культуры імя Я. Чэрскага. На працягу гадоў таварыствам зроблена нямала па захаванню мовы і культурных традыцый, пашырэнню ведаў аб Беларусі. Вядзецца выхаваўчая праца з дзецьмі: працуе нядзельная школа, дзейнічае маладзёжны клуб з танцавальнай, фальклорнай, краязнаўчай секцыямі, дзіцячы ансамбль "Пралескі". Выдаецца газета-бюлетэнь "Маланка".

Іркуцкія беларусы маюць невялічкую бібліятэку, якая не можа задаволіць духоўныя патрэбы дарослых і дзяцей. І калі ў Цэнтральнай гарадской бібліятэцы са згоды ўладаў быў адкрыты беларускі аддзел, востра паўстала праблема камплектавання яго літаратурай. На дапамогу прыйшлі калектыў Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі, "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" і Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі. З просьбай ахвяраваць кніжкі навуковыя супрацоўнікі звярнуліся не толькі да сваіх калег, але і ў іншыя інстытуты і арганізацыі. Знаёмыя і незнаёмыя неслі дзіцячую літаратуру, даведнікі, слоўнікі, падручнікі, часопісы, навукова-папулярныя выданні і мастацкія творы. Навукоўцы дарылі свае творы з аўтографамі. Стос кніжак прынесла Ірына Кулікоўскіх ад рэдакцыі "Настаўніцкая газета". А аднойчы да арганізатараў акцыі завітаў Зміцер Цехановіч, які прынёс вельмі добрыя выданні У. Арлова, А. Мальдзіса, Б. Сачанкі, і, спытаў, у якіх кніжках найбольшая патрэба, каб на ўласныя грошы купіць неабходную літаратуру. Вялікі дзякуй гэтаму шчодраму, добраму чалавеку!

Добразычлівасць і аператыўнасць праявілі супрацоўнікі Міністэрства замежных спраў па арганізацыі адпраўкі іркуцкаму таварыству кніжнага дара з Бацькаўшчыны. Шчыры дзякуй усім зацікаўленым у захаванні беларускай прысутнасці ў свеце!

**Анфіса ЛЯДНЁВА, супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН, сябра "ЗБС "Бацькаўшчына".**



Не адзін мастак выйшаў са сцен 10-й брэсцкай школы з архітэктурна-мастацкім ухілам. А заслуга ў гэтым вопытных педагогаў-мастакоў, старэйшым з якіх з'яўляецца заслужаны настаўнік Беларусі Віктар Міхайлаў. Сам пастаянны ўдзельнік рэспубліканскіх і замежных выстаў, ён яшчэ гадуе і маладыя таленты.

НА ЗДЫМКУ: Віктар МІХАЙЛАЎ і Косця МЫШКО, пераможца конкурсу на пушкінскую тэму ў Ірландыі.

**Фота Рамана КАБЯКА.**

## НАШЫ ЯПОНЦЫ

Восенню 1852 года дзеля падпісання дамовы з Японіяй была паслана дыпламатычная місія на чале з адміралам Пуцяціным. Перакладчыкам пры ёй быў ураджэнец Мінскай губерні, былы вучань Мінскай духоўнай семінарыі Іосіф Гашкевіч. Па вяртанні ў Санкт-Пецярбург Гашкевіч разам з самураем Тацібана-на-Каосай выдаў у 1857 годзе японска-рускі слоўнік. Неўзабаве па рэкамендацыі Пуцяціна Гашкевіча прызначылі консулам у Японію. Пры ім у Хакадатэ ў 1861 годзе былі адкрыты расійская школа ды бальніца.

Цікавасць да японскай культуры зблізіла ў Японіі консула Гашкевіча ды архіепіскапа Японскага Мікалая, у свеце Івана Касаткіна (1836—1912), які нарадзіўся ў вёсцы Ягор'е на Бярозе Бельскага павета Смаленскай губерні — на спрадвечнай беларускай этнічнай тэрыторыі. Ягоны бацька, дарэчы, як і Гашкевіча, быў дзякам у мясцовым храме і выкладчыкам у царкоўнапрыходскай школе. Пасля заканчэння Смаленскай духоўнай семінарыі Касаткіна за казённы кошт адпраўляюць у Пецярбургскую духоўную акадэмію. Скончыўшы яе, ён вырашае ехаць на змену святару Махаву ў Хакайда іераманахам.

Японец Сяргей Сеёдзі, які скончыў такійскую семінарыю і ў 1880 годзе накіраваны ў Расію вучыцца, быў усыноўлены прафесарам батанікі Маскоўскага універсітэта С. Рачынскім (1833 —1902). Маёнтак Рачынскага Тацева знаходзіўся побач з вёскай Ягор'е на Бярозе, радзімай Мікалая Японскага. Цікавым будзе і тое, што ў 1920—1922 гадах у Японіі жыў і супрацоўнічаў з гідраграфічным аддзелам Японскага флоту Міхал Каменскі, які нарадзіўся 24 лістапада 1886 года на Беларусі. Пасля заканчэння Пецярбургскага універсітэта ён у 1914—1919 гадах быў заснавальнікам і дырэктарам марской абсерваторыі ва Уладзівастоку. У 1923-м Міхал прыняў кіраўніцтва Астранамічнай абсерваторыяй Варшаўскага універсітэта. Быў сакратаром Польскага нацыянальнага астранамічнага камітэта і ганаровым сябрам Каралеўскага астранамічнага таварыства ў Англіі. Памёр Міхал Каменскі 19.04.1973 года пад Варшавай, пакінуўшы пасля сябе 70 навуковых прац.

**Алесь БАРКОЎСКІ.**

## САДРУЖНАСЦЬ



● **Аляксандр ДЗІДЗЕВІЧ.**

У польскім горадзе Зялёна Гура — пабраціме Мінска — пабывала дэлегацыя настаўнікаў сталічнай школы № 181. Гэта адказная паездка беларускіх настаўнікаў да польскіх калег у рамках праграмы "Экалагічная школа будучыні". Педагогі з Мінска наведалі экалагічныя школы ў гарадах Зялёна Гура, Губен, Гранова, дзе азнаёміліся з сістэмай навучання і выхавання, а таксама з вопытам экалагічнай адукацыі ў польскіх школах.

У выніку паездкі былі падпісаны папярэднія дамоўленасці з Саюзам экалагічных школ з Зялёна Гуры аб супрацоўніцтве, складанні сумесных экалагічных праектаў, стажыроўках вучняў і педагогаў. Чатыры беларускія школьнікі і два настаўнікі СШ № 181 атрымалі запрашэнне наведаць са сваімі экалагічнымі праектамі Еўрапейскую школу ў Германіі.

НА ЗДЫМКУ: дэлегацыя беларускіх настаўнікаў наведала аранжарэю экзатычных раслін у горадзе Зялёна Гура.

## ЗАМЕЖЖА

● **Таццяна ПАПОЎСКАЯ**, *супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі.*

# БЕЛАРУСЫ Ў МАЛДОВЕ: МІНУЛАЕ І СУЧАСНАСЦЬ

Па ўзроўні масавай свядомасці Малдова для беларусаў у нашы дні застаецца ў цэлым малавядомым краем. Між тым здаўна нашы краіны мелі даволі цесныя міждзяржаўныя стасункі. Іх гісторыя пачынаецца ад часоў Вялікага княства Літоўскага і Малдаўскага княства — феадальнай дзяржавы, што існавала ў XIV—XIX стагоддзях. У старажытных беларускіх актах Малдаўскае княства фігуруе пад назвай Валошчына, Валошскае ваяводства. Як адзначаецца ў тагачасных крыніцах, ужо пры "первых господарех воевод волоских и князей литовских... они мели межи собою братство и прыятельство и мир". Сапраўды, на працягу многіх стагоддзяў Малдова была сферай палітычных інтарэсаў ВКЛ. Пасля спынення першай княжацкай дынастыі малдаўскія баяры ў 1374 годзе запрасілі да сябе на пасад літоўскага князя Юрыя Карыятавіча, які, праўда, княжыў нядоўга, бо ў тым жа годзе памёр. Аднак ужо ў 1385-м, пасля падпісання Крэўскай уніі, Ягайла пры падтрымцы вялікага князя Вітаўта ўстанавіў над Малдаўскім княствам сюзерэнітэт Польшчы. Пазней яно аказвала дапамогу Вітаўту ў яго барацьбе супраць уніі. Справа дайшла нават да стварэння саюза Вітаўта, малдаўскага ваяводы Рамана і маскоўскага вялікага князя Васілія І.

У 1399 годзе Малдова выступіла саюзнікам Вітаўта ў бітве з войскам Залатой Арды на рацэ Ворскла, дзе саюзныя войскі пацярпелі буйное паражэнне. З канца XIV стагоддзя ва ўнутрымалдаўскіх справах актыўны ўдзел браў сын Альгерда вялікі князь ВКЛ Свідрыгайла. Падчас складаных жыццёвых калізій ён неаднаразова вымушаны быў пакідаць радзіму і шукаць сабе прытулак у Малдове. У сваю чаргу, палітычныя эмігранты з Малдовы сустракалі гасцінны прыём у ВКЛ. Не выключана, што на мяжы XIV—XV стагоддзяў Малдаўскае княства было ў васальнай залежнасці ад ВКЛ. У далейшым паміж дзвюма дзяржавамі ўсталяваліся раўнапраўныя адносіны. Вядома звыш 10 двухбаковых пагадненняў, заключаных у XV—XVi стагоддзях паміж ВКЛ і Малдовай, якія сведчаць аб гэтым. Вялікае княства Літоўскае неаднаразова аказвала падтрымку Малдаўскаму княству ў яго барацьбе супраць агрэсіі Асманскай імперыі. Беларускія ваяры разам з малдаванамі пралівалі кроў на палях бітваў з туркамі за свабоду Малдовы. Увогуле адносіны беларуска-літоўскага гаспадарства з Малдаўскім княствам вызначаліся сяброўствам і ўзаемадапамогай. Паводле дагавораў, ВКЛ амаль заўсёды захоўвала з Малдовай мір. Гэтак было нават тады, калі Польшча, звязаная уніяй з ВКЛ, ваявала супраць Малдаўскага княства. Адносіны Вялікага княства Літоўскага да Малдовы з'яўляліся зручнай магчымасцю прадэманстраваць ВКЛ сваю незалежную пазіцыю ад Польшчы, сведчылі аб добрым стаўленні праваслаўных беларусаў да малдаван-адзінаверцаў. Так, калі ў 1506 годзе кароль Польшчы і вялікі князь літоўскі Жыгімонд І Стары рыхтаваў паход на Малдову, ён прапанаваў удзел у ім войскам княства, але атрымаў рашучую адмову з боку Рады ВКЛ. На сойме 1532 года ў Вільні прадстаўнікі Жыгімонда марна прасілі дазволу на выкарыстанне супраць Малдовы войскаў ВКЛ, а ў 1551-м увогуле вальны сойм у Вільні вырашыў "прысегу учинити на вечны мир и покой воеводе волошскому з панством его милости великим князствам Литовским". Актыўныя дыпламатычныя стасункі з Малдовай падтрымліваліся ВКЛ і пасля Люблінскай уніі 1569 года.

Усё гэта спрыяла культурнаму збліжэнню ВКЛ і Малдаўскага княства. Яшчэ на пачатку XV стагоддзя былі спробы злучыць праваслаўныя цэрквы ВКЛ і Малдаўскага княства ў адзіную мітраполію. Літаратурная славянская мова, якая была афіцыйнай у Малдове да канца XVII стагоддзя, мела моцны ўплыў з боку старабеларускай мовы. Беларускі друкар з Віленскай брацкай друкарні Самуіл Рагаля быў заснавальнікам малдаўскага кнігадрукавання. У 1643 годзе ён быў пасланы мітрапалітам П. Магілам да малдаўскага гаспадара Васіля Лупу ў Ясы, дзе арганізаваў друкарню, у якой у тым жа годзе была выдадзена першая малдаўская друкаваная кніга "Евангелле вучыцельнае" ("Карця дэ ынвенцатуре"). Многія славутыя беларуска-літоўскія магнаты былі звязаны дынастычнымі шлюбамі з малдаўскімі гаспадарамі.

Вядома, сказанае вышэй тычылася ў першую чаргу стасункаў паміж вышэйшымі пластамі грамадства беларуска-літоўскага гаспадарства і Малдовы. Пасля далучэння Малдовы да Расіі ў канцы XVIII — пачатку XIX стагоддзяў, калі беларусы і малдаване апынуліся ў адзінай дзяржаве — Расійскай імперыі, — склаліся больш спрыяльныя ўмовы для ўзаемнай міграцыі насельніцтва, хаця яна і была ў цэлым нязначнай. У часы першай сусветнай вайны ў Малдове знаходзілі сабе прытулак бежанцы з беларускіх земляў.

У 1924 годзе была створана Малдаўская АССР у складзе УССР, а правабярэжная частка малдаўскіх зямель (Бесарабія) была пад уладай Румыніі. У чэрвені 1940-га, пасля далучэння Савецкім Саюзам гэтай часткі, была створана Малдаўская ССР.

Устойлівая, хаця і невялікая беларуская супольнасць у Малдове з'явілася толькі пасля другой сусветнай вайны. Прыязджалі ў асноўным беларусы па аргнаборах, на будоўлі, па абавязковаму размеркаванню навучэнцаў, па сямейных абставінах. У 1959-м у Малдове было звыш 9 тысяч беларусаў, у 1979-м — каля 14 тысяч, у 1989 — 20 тысяч. Па сацыяльнаму складу гэта былі прадстаўнікі ўсіх слаёў грамадства, пераважна рабочыя і сяляне. У адпаведнасці з тэорыяй збліжэння і зліцця народаў, якая ажыццяўлялася ў той час у СССР, беларусы, як і іншыя нацыянальныя групы, не мелі ў Малдове сваіх культурна-асветных асяродкаў.

У 90-я гады пасля распаду СССР, набыцця нашымі краінамі незалежнасці ў жыцці беларускай дыяспары Малдовы адбыліся істотныя змены. Пэўная частка беларусаў вярнулася на Радзіму. У 1991—1995 гадах з агульнай колькасці 4 353 жыхароў Малдовы, якія прыехалі ў Беларусь, беларусы склалі 1 673 чалавекі, ці больш 38 працэнтаў. За гэты ж час з Беларусі ў Малдову перасяліліся 2 277 чалавек, у тым ліку і пэўная колькасць беларусаў (у 1995-м — 45 беларусаў). Беларусы Малдовы пачалі больш імкнуцца да арганізацыі нацыянальна-культурнага жыцця. Была створана і пачала праводзіць культурна-асветную работу Беларуская грамада ў Рэспубліцы Малдова (Кішынёў, старшыня Уладзімір Дзяржыцкі), у Бендэрах заснавана суполка "Беларусь" (кіраўнік Ганна Лапацьева). У Кішынёве дзейнічае беларуская нядзельная школа. У адной з бібліятэк горада арганізаваны аддзел беларускай літаратуры. Прадстаўнікі беларускіх суполак удзельнічалі ў рабоце Сходу беларусаў замежжа, І і ІІ з'ездах беларусаў свету, што адбыліся ў Мінску ў 1993 і 1997 гадах. Суполкі падтрымліваюць сувязі з беларускім пасольствам у Малдове.

Беларусь і Малдова прынялі шэраг узаемных дакументаў, якія абараняюць правы сваіх грамадзян на тэрыторыі адпаведных краін. У верасні 1995-га было падпісана Пагадненне паміж уладамі абедзвюх дзяржаў аб гарантыях правоў грамадзян у галіне пенсійнага забеспячэння. У маі 1994-га падпісана Пагадненне аб працоўнай дзейнасці і сацыяльнай абароне грамадзян Рэспублікі Беларусь, што працуюць на тэрыторыі Малдовы, і яе грамадзян, якія працуюць на тэрыторыі Беларусі. Яно ўступіла ў сілу з лютага 1997 года. Гэтае пагадненне распаўсюджваецца на грамадзян і членаў іх сем'яў, а таксама асоб, якія маюць пастаяннае месца жыхарства на тэрыторыі Беларусі і Малдовы. У ім вызначаюцца пытанні налічэння працоўнага стажу, часовай непрацаздольнасці ў сувязі з цяжарнасцю і родамі, прафесійнымі захворваннямі і г. д. У верасні 1997 года заключана міжурадавае Пагадненне аб абароне правоў і інтарэсаў беларусаў у Малдове і малдаван у Беларусі.



# «Я ШЧАСЬЛІЎ ТАДЫ, КАЛІ ВОЛЯЙ НАПОЎНІЦЦА РОДНЫ НАШ КРАЙ...»

***Жыццёвы і творчы шлях Хведара ІЛЬЛЯШЭВІЧА***

● **Лідзія САВІК.**

Імя Хведара Ільляшэвіча — паэта, празаіка, крытыка, беларускага грамадска-культурнага дзеяча, якому ў 2000 годзе споўнілася б 90 гадоў, займае пачэснае месца ў ліку такіх вядомых літаратараў былой Заходняй Беларусі, як А. Луцкевіч, У. Самойла, А. Салагуб, І. Канчэўскі, Л. Родзевіч, Ф. Аляхновіч, Н. Арсеннева, М. Краўцоў, С. Хмара, А. Бярозка, А. Станкевіч, М. Машара, М. Танк, без якіх нельга ўявіць беларускі адраджэнскі рух 20-х — 30-х гадоў XX стагоддзя.

Усе, хто ведаў Хведара Ільляшэвіча ў тыя гады і пазней, на эміграцыі, хто быў знаёмы з ім асабіста ці па творчай і грамадскай дзейнасці, пакінулі па ім добрыя, цёплыя ўспаміны.

Сабраў і выдаў яго літаратурную спадчыну Юры Жывіца, стваральнік беларускага музея ў Ляймэне ("Недапетая песьня", 1981, Германія), высокім словам удзячнасці і павагі згадвае яго ў "Масеевай кнізе" паэт Масей Сяднёў, беларускі празаік У. Случанскі (жыў і памёр у Аўстраліі) лічыў Хведара Ільляшэвіча сваім настаўнікам, збіраў яго творы а. Аляксандр Надсон. Пісалі пра свае сустрэчы з Ільляшэвічам многія вядомыя на эміграцыі беларусы: Я. Найдзюк, Ю. Віцьбіч, У. Брылеўскі, яму прысвячалі вершы М. Васілёк, М. Сяднёў, М. Кавыль... А пражыў Хведар Ільляшэвіч кароткае, але яркае і змястоўнае жыццё, напоўненае творчым гарэннем, любоўю да людзей, Бацькаўшчыны, за волю і незалежнасць якой самаахвярна змагаўся.

Некалі Гётэ сказаў: "Хто хоча зразумець паэта, той мусіць пабываць на яго радзіме". А радзіма Хведара Ільляшэвіча — беларуская Вільня, дзе ён нарадзіўся 17 сакавіка 1910 года ў сям'і паштальёна. Бацькі былі беларусамі і паходзілі з Пружан. Хведар быў малодшым, меў сястру Ніну і старэйшага брата Міколу. Падчас першай сусветнай вайны пайшлі ў бежанства, жылі ў г. Скопіне, непадалёку ад Разані, перажылі рэвалюцыю, грамадзянскую вайну. У Вільню вярнуліся, калі заходняя частка Беларусі апынулася пад уладай Польшчы. Пачалося вынішчэнне ўсяго беларускага на Крэсах усходніх, на беларускіх землях запанавалі польскія асаднікі, арыштоўваліся беларускія дзеячы, закрываліся школы, ганьбавалася беларуская мова. Тым не менш, Ільляшэвічы паслалі дзяцей вучыцца ў Віленскую беларускую гімназію, адну з чатырох беларускіх гімназій, якія яшчэ існавалі ў Заходняй Беларусі. У Віленскай гімназіі працавалі выдатныя педагогі-асветнікі: М. Гарэцкі, А. Смоліч, С. Рак-Міхайлоўскі, А. Грыневіч, С. Паўловіч. Навучэнцы выдавалі рукапісны часопіс "Рунь", друкаваліся ў часопісе "Маладое жыцьцё" (1921—1923 гады). У ім упершыню пачалі публікаваць свае творы Мікола і Хведар Ільляшэвічы. Выязджаючы падчас канікул у Пружаны Хведар, які быў таварыскім, шчырым юнаком, любіў спяваць, выдатна іграў на гітары, гармоніку, заўсёды збіраў вакол сябе моладзь, чытаў вершы, расказваў пра беларускую гісторыю. Ён, як і Алесь Салагуб (актыўны ўдзельнік Беларускай сялянска-работніцкай Грамады), хадзіў па беларускіх вёсках, распаўсюджваў рэвалюцыйную літаратуру, ідэі беларускасці. За гэту дзейнасць і А. Салагуб, і Х. Ільляшэвіч у 1927 годзе польскімі ўладамі былі пасаджаны ў Лукішкі, віленскую турму, сцены якой памятаюць многіх славутых беларусаў-вязняў. Пасля дзесяці месяцаў зняволення шляхі беларускіх паэтаў разыходзяцца. А. Салагуб, паверыўшы, што ў БССР сапраўды будуецца "беларускі дом", нелегальна пераходзіць мяжу і, прыехаўшы ў Мінск, паступае ва універсітэт, затым у аспірантуру Інстытута літаратуры Акадэміі навук. Да гэтага часу ён ужо быў вядомым паэтам, аўтарам многіх вершаў, "Лукішскага дзённіка", гэтага, па словах У. Калесніка, "мастацкага дакумента цэлага пакалення заходнебеларускай моладзі 20-х гг., мастацкай хронікі турэмнага жыцця". Аднак А. Салагуб, прыхільнік савецкай улады і яе

*Хведар ІЛЬЛЯШЭВІЧ у маладыя гады.*

сацыялістычных пераўтварэнняў, у перыяд сталінскіх рэпрэсій аб'яўлены "ворагам народа", быў расстраляны ў 1934 годзе, а жонка з сынам высланы на Поўнач.

Хведар Ільляшэвіч пасля выхаду з Лукішак, ужо таксама вядомы паэт (дэбютаваў вершамі з 1925 года ў часопісах "Студэнцкая думка", "Жыцьцё беларуса", "Беларуская справа", "Беларуская ніва", "Крыніца", "Калосьсе" пад псеўданімам "Малады"), быў сустрэты роднымі, сябрамі, якія зрабілі незвычайны падарунак 19-гадоваму паэту — выдалі яго першы паэтычны зборнік "Веснапесьні" (1929, Вільня, падрыхтаваны да друку сястрой Нінай). Прадмову да зборніка напісаў сам паэт, у якой адзначаў: *"Я думаю вобразна, дзеля гэтага ў маіх вершах шмат недасказанага. Галоўны тон іх — гэта трывожнасць сучаснае эпохі. Суадказна якраз гэтаму, што звініць у цэнтральных вершах, я і назваў зборнічак "Веснапесьні". Шмат твораў, зьмешчаных тут, ужо друкаваліся. Між іншым, надрукаваны мой першы "салідны" верш "Мужыцкая доля", спраўлены Натальляй Арсенневай.*

*Яшчэ шукаю пераважна ў галіне формы. Старое не падабаецца. У беларускай паэзіі, зусім зразумела, пераважалі сумныя, нявыразныя матывы і ідэалы. Новае пакаленне, якое вырасла на груньце адраджэнскага ўздыму, нясе з сабой выразнасць і бадзёрасць. У навейшай беларускай паэзіі гучыць сонечны марш, і для "новых" паэтаў настаў час скласьці "Новы Апокрыф".*

Для новых, маладых паэтаў пакалення Х. Ільляшэвіча "Новы Апокрыф" далучаўся да традыцый "Апокрыфа" М. Багдановіча, класіка беларускай літаратуры, як да сімвала веры. Паэзія Х. Ільляшэвіча была заснавана на падзеях, праблемах тагачаснай рэчаіснасці, якімі жыла Заходняя Беларусь і сярод якіх фарміраваўся Х. Ільляшэвіч. Таму і вершы першага зборніка паэта цалкам адпавядалі яго грамадзянскай, палітычнай пазіцыі, неслі сапраўды выразны адбітак маладога запалу, веры ў нацыянальна-адраджэнскія ідэі. Гэта асабліва адчувальна ў праграмным вершы "Гвардыя", які адкрываў "Веснапесьні".

Мы маладыя,<br>
Мы ўдалыя,<br>
Мы брацьця волі, сонца й дня!<br>
Хай льлюцца песьні<br>
Аб шчасьці й долі —<br>
І болей сьмеху, больш жыцьця!

Такія вершы, перапоўненыя рытарычнымі заклікамі, хоць і не вызначаліся высокай мастацкасцю, знешне, аднак, успрымаліся як поўная супрацьлегласць той паэзіі, дзе найбольш гучалі ноты тугі, безвыходнасці, апавядалася пра цяжкую, пакутную долю народа. Па-другое, яны гаварылі, што трэба надаць беларускай паэзіі жыццесцвярджальнага пафасу, хаця сам малады паэт не цураўся таксама плачаў-жальбаў, характэрных для беларусаў тужліва-элегічных настрояў.

Х. Ільляшэвіч шмат пісаў вершаў, прысвечаных гарадскому рабочаму люду ("Работнік", "Каваль", "За работай..."), і гэтым як бы далучаўся да грамадскіх спраў, знаходзіў дзеля гэтага шчырыя словы, верыў, заклікаў, марыў: "Толькі вер — і загіне зіма, // І над краем свабодна, прыгожа // Узыйдзе, закрасуе вясна...", "Калі будзем мы спаць, // Будзе лепей панам. // Хто нам можа што даць? // Мы! Ты сам!..", "Здаецца б, клікаў да работы новай, // Да песьняў веснавых, да шчасьця, да жыцьця!.." "Я шчасьліў тады, // Калі воляй напоўніцца родны наш край..."

Турэмнае пакаранне не прыцішыла бунтарных настрояў беларускага паэта. Ён працягваў актыўна працаваць на ніве нацыянальнага адраджэння, спалучаючы грамадскую дзейнасць з вучобай на гістарычным факультэце Віленскага універсітэта.

У гэты час з Прагі ў Вільню вярнуўся Мікола Ільляшэвіч, які вучыўся ў Карлавым універсітэце разам з У. Жылкам, В. Жук-Грышкевічам, Я. Геніюшам, Л. Гарошкам, братамі Орсамі. Ён таксама ўключыўся ў работу па аб'яднанню беларусаў: стаў рэдактарам часопіса "Саха", пісаў артыкулы па нацыянальных праблемах, раскрываючы ролю Расіі ў адносінах да паўночна-заходняга краю ад часоў Кацярыны II, выкладаў у Віленскай беларускай гімназіі гісторыю Беларусі, з педагагічнымі мэтамі напісаў вучэбны дапаможнік "Кароткі нарыс псіхалогіі". У Празе на чэшскай мове выйшла кніга Міколы Ільляшэвіча "Беларусь і беларусы", дзе аўтар ставіў задачу — пашырыць у Еўропе звесткі пра Беларусь.

Так браты Ільляшэвічы ад маладых гадоў аддана служылі беларускай нацыянальнай ідэі. Аднак Мікола Ільляшэвіч у 1934-м вельмі рана (на 28 годзе жыцця) памёр ад невылечных тады сухотаў, а Хведар, скончыўшы ў 1936-м Віленскі універсітэт, абараніў дысертацыю "Друкарня дома Мамонічаў у Вільні (1575—1622)", атрымаў званне магістра філасофіі. У яго асабістым жыцці таксама адбыліся змены: ён ажаніўся. Жонкай яго стала дзяўчына, якая сябравала з Міколам, менавіта адчуванне агульнай страты зблізіла іх. Працягваючы далей справу Міколы, Надзя (паходзіла з беларускай сям'і Алексюкоў з вёскі Тапаляны каля Беластока) і Хведар жылі ў Вільні, дзе ў іх нарадзілася двое дзяцей: дачка Марыля (1936) і сын Юрка (1938). Хведар працаваў на месцы Міколы ў Віленскай беларускай гімназіі, выкладаў родную мову, літаратуру, гісторыю. У гэтыя гады ў гімназіі настаўнікам матэматыкі, а затым дырэктарам працаваў Барыс Кіт, сябра братоў Ільляшэвічаў, які пазней стане сусветна вядомым вучоным, акадэмікам Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі.

Працяг будзе.

**Лідзія САВІК — пісьменніца, крытык, літаратуразнаўца, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Я. Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, дацэнт Беларускага універсітэта культуры, член Саюза пісьменнікаў Беларусі.**

**Займаецца вяртаннем творчай спадчыны рэпрэсіраванай і эміграцкай беларускай літаратуры. Выдала манаграфіі: "Адчуванне часу", "Пад мірным небам Бацькаўшчыны", "Вяртанне", "Каб не астыла цяпло зямлі", сааўтар кніг "Беларускія пісьменнікі і літаратурны працэс 20-х — 30-х гадоў", "Культура беларускага замежжа", "Сыны і пасынкі Беларусі". Выступае на старонках рэспубліканскай перыёдыкі з праблемнымі артыкуламі.**

**КОНКУРСЫ**



Святам высокай моды стала правядзенне ў Віцебску конкурсу мадэльераў-дызайнераў і манекеншчыц агенцтваў мадэлей Беларусі "Белая амфара-2000".

Гэты конкурс, які нарадзіўся некалькі гадоў таму па ініцыятыве канцэрна "Беллегпрам", набывае ў краіне ўсё большую папулярнасць. Ён заўважаны замежнымі мастакамі-мадэльерамі. Апошняе асабліва адметнае цяперашнім разам: журы конкурсаў з'яўляецца, па сутнасці, міжнародным.

У дзень урачыстага адкрыцця "Белай амфары" было наладжана грандыёзнае святочнае шоу, на якім шматлікія гледачы ўбачылі шэсце моды па планеце на працягу стагоддзя. Звярнулі на сябе ўвагу новыя калекцыі "Сцежка Месяца" і "Серыя пашпарта 2000".



# «БЕЛАЯ АМФАРА-2000» У ВІЦЕБСКУ



Сярод ганаровых гасцей "Белай амфары" (падчас яе адкрыцця) быў пасол ЗША ў Беларусі Дэніел Спекхард разам з сям'ёй...

Уладальнікам Гран-пры сярод мадэльераў-дызайнераў стала Алена Міт, мастак-мадэльер ЗАА "Мілавіца", за калекцыю "Утопія". Вышэйшую ўзнагароду фестывалю Гран-пры атрымалі і манекеншчыцы мінскага агенцтва мадэлей "Тамара".

НА ЗДЫМКАХ: фрагменты конкурснага паказу мадэлей; мадэль — прызёр фестывалю; мастак-мадэльер ЗАА "Мілавіца" Алена МІТ з узнагародай; госці фестывалю.

**Фота Аляксандра ХІТРОВА,** БелТА.



ГАСЦЁЎНЯ

# СУЗОР'Е ТАЛЕНТАЎ Марыны ДУДАРАВАЙ



**Гэта здараецца заўсёды нечакана. Выбух эмоцый, асляпляльнасць навізны, пераварот ва ўспрыманні рэчаіснасці, хваля надзвычайнай цікавасці да тэатральнага жыцця. Узыходжанне Марыны Дударавай на зоркавы небасхіл выклікала менавіта такую рэакцыю, калі яна, балетмайстар, узялася за рэжысёрскую справу і паставіла на сцэне Дзяржаўнага маладзёжнага тэатра Беларусі тры спектаклі: "Я хачу быць каханай...", "Сакрэт Шахразады", "... і зноў Рамэо і Джульета". Унікальнасць работ Марыны Дударавай у тым, што яна надзяліла аднолькавымі паўнамоцтвамі напружаную лірычную драматургію, музыку і балетныя рухі. У выніку такога эксперыменту атрымаліся незвычайныя спектаклі. У двух апошніх Марына Дударава праявіла сябе яшчэ і як здольная актрыса. У спектакль "...і зноў Рамэо і Джульета" яна ўвяла новую ролю — злога духа, якую бліскуча "выпісала" з дапамогаю балетных сродкаў.**

**Прызнанне хутка перайшло межы Беларусі. Са сваімі спектаклямі Марына прыняла ўдзел у міжнародных фестывалях у Беларусі, Малдове, Украіне, Латвіі, Францыі, Егіпце. У 1998 годзе яна стала прызёрам мінскага конкурсу "Прызнанне ў каханні" ў намінацыі "За лепшую рэжысуру" і ўладальнікам прыза сімпатый гледачоў.**

**І яшчэ адзін штрых да творчай біяграфіі Марыны Дударавай — стварэнне ёю харэаграфічных пастановак да мастацкіх стужак знакамітых рэжысёраў Алаіса Брэнча ("Белыя дзевы") і Валерыя Рубінчыка ("Пейзаж з трыма купальшчыцамі").**

*Я сустрэлася з Марынай Дударавай у грымёрцы Маладзёжнага тэатра ў перапынку паміж рэпетыцыямі. Яна, як балетмайстар, праводзіць па некалькі рэпетыцый на дзень, прычым у розных тэатрах, здараецца, з разбежкай 10—15 хвілін. Паспець усюды ёй дапамагае Прынцэса — так любоўна Марына называе свой бэзавы "Фольксваген", які водзіць з задавальненнем.*

*Марына Віктараўна здалася мне вельмі прыемнай жанчынай, адкрытым чалавекам, але ўменне пастаяць за сябе ў любых абставінах таксама не хавала.*

*Марына Дударава ахвотна расказвае пра сваю дружную сям'ю: мужа Ігара Дударава, у мінулым артыста балета Беларускага opернага тэатра, а зараз уладальніка ўласнай фірмы, і дзвюх дачок Мар'яну і Аляксандру, якімі вельмі ганарыцца. Старэйшая сур'ёзна займаецца англійскай мовай, нядаўна заняла першае месца ў гарадской алімпіядзе, малодшая піша вершы на рускай і, што здзіўляе маці, на беларускай мовах. Членам сям'і з'яўляецца таксама чорны тэр'ер па мянушцы Раджа. На маё натуральнае пытанне, як яна ўсё паспявае, Марына Віктараўна адказала:*

— Тэатр займае вельмі шмат часу, асабліва ў перыяд прадпрэм'ернай гонкі, але сям'я падтрымлівае маю апантанасць. Я ўмею добра арганізаваць свой час, раблю некалькі спраў адразу, а ноччу магу варыць боршч. А наогул, для ўсіх свята, калі я дома.

**— Што надае вам адчуванне свабоды?**

— Да 30 год я была страшэнна заціснутая, нібыта ў ракавіне сядзела. Мне здаецца, што ўвесь час я набірала, упітвала, а калі з'явілася неабходная база, стала на што абаперціся, — я пачала раскрывацца, адчула сябе ўпэўнена.

**— Вы паставілі спектаклі, галоўныя гераіні якіх тры вядомыя жанчыны-вобразы: Мэрылін Манро, Шахразада, Джульета. Чаму менавіта пра іх, што ў вас агульнага з імі?**

— Ідэя спектакля "Я хачу быць каханай" паводле кнігі Сільвена Рэнера "Трагедыя Мэрылін Манро" належыць Алене Унукавай. Мяне зацікавіла трагічнасць лёсу менавіта ў той момант, калі жанчына, знаходзячыся ў зеніце славы, вядомасці і ўсеагульнай любові, усё ж засталася глыбока няшчаснай. Мне цікава гэта даследаваць. "Сакрэт Шахразады" з'явіўся пасля нашай паездкі на фестываль у Каір, пад уплывам усходняга каларыту. Значную дапамогу аказаў егіпцянін Амін Эль Серафі, мастак-афарміцель спектакля. Шахразада таксама вельмі цікавы для мяне вобраз. Апошняя мая гераіня, Джульета, — дзяўчына, якая за некалькі дзён ператварылася ў жанчыну, здольную абараніць самае галоўнае ў жыцці — сваё каханне. Мяне хвалююць экстрэмальныя моманты, бо тады чалавек раскрываецца ў поўнай меры і яго цікава даследаваць. А ўвогуле, тэма ўсіх маіх спектакляў — каханне. Я лічу, што яно — самае галоўнае з таго, што дадзена чалавеку. І не толькі каханне мужчыны і жанчыны, а ўсе праявы любові. Я люблю людзей і хачу, каб яны мяне любілі.

**— У адным з інтэрв'ю вы сказалі, што ў тэатры вам падабаюцца фанатыкі. Вас таксама можна аднесці да іх ліку?**

— Так, я верная тэатру, наперакор усяму. Гэта нялёгка. Усе ведалі мяне як харэографа, а тут раптам стала займацца рэжысурай, ды яшчэ і на сцэну сама выйшла. Маёй перамогай, лічу, стала прызнанне права на наступны спектакль. Пастаноўка "Жаніцьба Фігара" была ўнесена ў план Маладзёжнага тэатра.

**— Адчулі задавальненне пераможцы?**

— Не, страх. Каб не сапсаваць усё. Адказнасць значна большая, а вопыту мне яшчэ набіраць і набіраць. Прафесія рэжысёра вельмі кампелятыўная. Трэба быць і часткова мастаком, бо ідэю дэкарацый дае рэжысёр, эканамістам, псіхолагам, добрым арганізатарам і мець моцную энергетыку — каб прымусіць людзей падключыцца працаваць на тваю ідэю. Надзвычай цяжка. Калі адбываецца прэм'ера, у мяне наступае дэпрэсія, энергетычны спад. Затым спектакль ідзе ў пракат, і энергія ад гледачоў вяртаецца, назапашваецца. Я зноў бяруся за працу. Вось такі кругаварот атрымліваецца.

**— А вы жывяце больш пачуццямі ці розумам?**

— 50 на 50. Я вельмі эмацыянальная, хутка загараюся, але і логіку маю. Жалезную. Фантазія заносіць у такую далячынь, што адтуль можна і не выбрацца. Мне здаецца, што ўва мне ўсё ўраўнаважана. А яшчэ выводзіць з тупіка шалёная інтуіцыя. Мне нават здаецца, што я трошкі ведзьма, добрая ведзьма.

**— Марына, вы гаварылі, што, нягледзячы на самыя добрыя адносіны, аднойчы вам надакучыла падпарадкоўвацца рэжысёрам. А як жа цяпер складваюцца адносіны ў вас з акцёрамі?**

— Я вельмі люблю артыстаў, з якімі працую са спектакля ў спектакль, а гэта Алена Унукава, Ігар Фільчанкоў, Сяргей Журавель, Анатоль Кот, Ганна Лаухіна і іншыя. Мне здаецца, гэта ўзаемна. У нас добрая каманда, а калі працуюць аднадумцы, то ўвесь спектакль будзе прасякнуты дабрынёю і прыгажосцю, і гэта перадасца людзям у зале. Мне ўвогуле здаецца, што ў апошні час з тэатра адыходзіць тэатральная эстэтыка, якая ўключае ў сябе такія паняцці, як умоўнасць, вобразнасць, стылявое адзінства, паэтычнасць.

**— Эстэтыка наогул страчана?**

— Не, захавалася ў маіх спектаклях, — смяецца Марына Віктараўна, і гэтак лічыць не толькі яна. Многія з тэатральных крытыкаў гавораць, што пастаноўкі Марыны Дударавай адразу можна пазнаць, яны маюць свой адметны стыль, аснова якога — вобразнасць.

**— А на мары час застаецца?**

— Так, я мару, каб заснаваць свой тэатр, дзе будуць працаваць толькі тыя, каго люблю я, і тыя, хто любіць мяне, людзі, якія ўмеюць і жадаюць працаваць. І каб мы ні ад кога не залежалі, толькі — ад нашых гледачоў.

*Спецыялістамі прызнана, што Марына Дударава сваімі спектаклямі стварыла практычна новы напрамак у драматургіі. На адным з фестываляў было прапанавана назваць яго постмадэрнісцкім экспрэсіянізмам, але афіцыйнай назвы гэты новы стыль пакуль яшчэ не мае.*

**Гутарыла Лавінія АРЭШКА.**



*М. ДУДАРАВА ў спектаклі "...і зноў Рамэо і Джульета".*

ЗАЧАРАВАНАЕ ВОЗЕРА



**Фотадэбют Паўла БЯНЕЦКАГА.**

АНОНС

## ЁСЦЬ У ГОМЕЛІ «КРЫНІЧКА»...

Гомельская дзіцячая газета "Крынічка" — адзін з тых праектаў, які ажыццяўляюць самі дзеці — вучні журналісцкага класа сярэдняй школы № 44 горада Гомеля. У гэтым абласным цэнтры даволі шмат выданняў, разлічаных на старшакласнікаў ды студэнтаў, а вось малодшае пакаленне ў гэтым сэнсе доўгі час заставалася абдзеленым. Яшчэ больш балючай з'яўляецца праблема беларускамоўнага навучання школьнікаў, якая, на жаль, не толькі ніяк не вырашаецца, але, наадварот, абвастраецца.

Каб хоць крыху паўплываць на выпраўленне гэтага становішча, і распачала свой выхад цалкам беларускамоўная газета для дзяцей Гомеля — "Крынічка". Як нарадзілася назва, ніхто і не памятае. Адразу знайшоўся і эпіграф: словы Максіма Багдановіча: "У краі родным ёсць крыніца жывой вады..." Як вы ўжо, пэўна, здагадаліся, рэдактарамі і выдаўцамі газеты з'яўляюцца гомельскія школьнікі, навучэнцы адзінага ў вобласці журналісцкага класа. Арганізацыю тэхнічнага боку ўзяло на сябе абласное аб'яднанне "Грамадзянскія ініцыятывы".

З'явіліся ў "Крынічкі" і сталыя рубрыкі: "Права", "Экалогія", "З нашай гісторыі" і іншыя. Не апошняе месца, безумоўна, займаюць і лісты чытачоў. Над нумарамі газеты працуюць Таццяна Лозка і Паўлюк Міцкевіч.

Вось такія добрыя справы робяцца сёння ў Гомелі. Ну а тэлефанаванняў ад тых, хто жадае больш дасканала пазнаёміцца з выданнем або замовіць далейшыя нумары патрыятычна-выхаваўчай дзіцячай беларускамоўнай газеткі "Крынічка", чакаем па нумары: (0232) 560-512. Адрасы газеты: г. Гомель. 246036, а/с № 19 або 246028, г. Гомель, вул. Кожара, 1/43.

Спадзяемся на падтрымку палешукоў-гамяльчан, якія зараз жывуць за межамі нашай Бацькаўшчыны-Беларусі.

«Голас Радзімы»

Галоўны рэдактар
Наталля САЛУК

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом "Радзіма".

РЭДАКЦЫЯ:
Намеснік галоўнага рэдактара **Галіна УЛІЦЁНАК.**
Адказны сакратар **Таццяна КУВАРЫНА.**
Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі **Яўген ЛЕЦКА.**
Рэдактар аддзела **Алена СПАСЮК.**
Аглядальнікі **Юрась ЛЯШКЕВІЧ, Леанід МАРАКОЎ, Таццяна ХРАПІНА.**
Спецыяльны карэспандэнт **Нэлі ПРЫВАЛАВА.**
Рэдактар-перакладчык **Святлана КАРПУЧОК.**
Стыльрэдактар **Ірына КАЗЛОВА.**
Тэхнічны рэдактар **Данута РАКАВЕЦ.**

НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97 (тэл.-факс), 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 828 экз.
Зак. 1439.
Падпісана да друку 5.6.2000 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).